А. Сянкевіч

# Да пытаньня аб мінулых хлебазагатоўках

Няўдача з васеньнімі хлебазагатоўкамі (недавыкананьне пляну на 128 міл. к 1 студзеня 1928 г.) зьявілася пагрозай зрыву снабжэньня хлебам нашых пралетарскіх цэнтраў і Чырвонае арміі і магла прывесьці да агульна-гаспадарчага крызісу.

Дзякуючы цьвёрда і ўпарта праведзеным хлебазагатоўчым кампаніям, зімняй і вясеньняй, становішча на хлебным фронце палепшылася. Асноўную небясьпеку—крызіс, які-б закрануў самыя асновы нашага эканамічнага жыцьця, гэтую небясьпеку мы перамаглі.

Але тыя надзвычайныя меры, якія прышлося ўжываць асабліва ў вясеньнюю кампанію і якія ў некаторых раёнах закранулі страхавыя запасы сялянства, перагібы некаторых мясцовых арганізацый у бок мэтадаў прадразьвёрсткі, несьлі нам другую ня менш грозную небясьпеку—разрыў рабоча-сялянскага саюзу.

Сваечасовае спыненьне гэтых надзвычайных мер, лепшыя віды на ўраджай з адначасовым паляпшэньнем агульна-гаспадарчай кон'юнктуры папярэдзілі і гэтую другую небясьпеку.

Хлебазагатоўчыя цяжкасьці з аднаго боку выявілі сапраўдны твар вёскі, выявілі тое клясавае змаганьне, якое ідзе ў вёсцы і якое прыняло там адкрытыя формы, з другога боку яны ўстрапянулі партыйную думку і зьявіліся зноў экзаменам шмат каму ў пытаньні рабоча-сялянскага блёку—гэтага асноўнага прынцыпу пралетарскай дыктатуры.

Пачуліся з аднаго боку зласьлівыя галасы яўных і патаемных прыхільнікаў разьбітай ушчэнт апазыцыі:—Ага, апазыцыя была права ў сваіх ацэнках становішча і прапановах, вам нічога не застаецца, як ісьці па шляхох, паказаных апазыцыяй, якую вы толькі што разьбілі.

З другога боку пачуліся капітулянцкія галасы, праўда, галасы адзінак, перад заможным сялянствам з лозунгам аб змычцы з сялянствам па лініі лёгкай індустрыі, аб „восстановительных" цэнах і г. д.

Для ўсякага, хто паленінску імкнецца разабрацца ў становішчы, зразумела, што тая лінія, якую намеціў XV партзьезд і апошнія Пленумы ЦК у адносінах да вёскі, як неба ад зямлі розьніцца ад лініі, якую імкнулася праводзіць апазыцыя. Апошняя гнула лінію на зрыў з серадняцкімі масамі сялянства, а курс і лінія партыі—на далейшае захаваньне і замацаваньне саюзу рабочае клясы з серадняцтвам. Супольнага тут няма нічога.

Глыбока памыляюцца, больш таго, зьбіваюцца з ленінскага шляху тыя таварышы, якія прапануюць „восстановительные" цэны, або прапануюць змычку з сялянствам па лініі лёгкай індустрыі, яны фактычна ідуць на зрыў рабоча-сялянскага саюзу з другога боку.

Каб ясьней уразумець гэта, трэба разабрацца ў прычынах, якія прывялі да цяжкасьці ў хлебазагатоўках.

Аднэй з гэтых прычын зьяўляецца *раздробленасьць сельскае гаспадаркі.* Рэволюцыя разбурыла буйныя памешчыцкія латыфундыі, уся наша палітыка накіроўвэецца на зьнішчэньне кулака ў вёсцы, а гэтыя катэгорыі давалі асноўную масу зернавога хлеба. Раздробленыя сельскія гаспадаркі, ужо па сваёй прыродзе ня могуць даць значных хлебных лішкаў.

Другой прычынай зьяўляецца *асабліва нізкі ўзровень зернавое галіны сельскае гаспадаркі,* нізкая ўраджайнасьць, слабая таварнасьць зернавых прадуктаў.

Да гэтага трэба дадаць, што ў параўнаньні з дарэвалюцыйнымі часамі ў сувязі з павялічаным тэмпам індустрыялізацыі павялічылася спажываньне хлеба гарадзкім насельніцтвам, значна больш спажываецца хлеб і самім сялянствам.

Трэцяя прычына—гэта агульны рост вытворчых сіл вёскі і выцякаючы адгэтуль разрыў паміж узрастаючым плацежаздольным попытам сялянства, асабліва яго заможных слаёў, і прапановай прамысловых тавараў.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць некаторыя плянавыя памылкі, а таксама, як немалаважную прычыну, недахопы работы хлебазагатоўчых органаў, недахопы па лініі кіраўніцтва з боку партыйных і савецкіх арганізацый, адсутнасьць сваечасовага рэагаваньня з боку партыі, занятай у мінулую восень змаганьнем з апазыцыяй.

Кулак выкарыстаў створаную сітуацыю, каб павесьці паход супроць пралетарскай дзяржавы на хлебным фронце. Мы фактычна былі сьведкамі ўсесаюзнай кулацкай забастоўкі. З боку кулака, з боку былых людзей у вёсцы, узмацнілася варожая нам агітацыя. Кулак яўна выступаў супроць нас. Больш заможная частка серадпякоў узрушаная надзвычайнымі мерамі пачала хістацца ў бок кулака. Дзякуючы недахопу хлеба некаторае часовае незадаваленьне наглядалася і сярод беднаты.

Віды на лепшы ўраджай і рад мерапрыемстваў з боку партыі пераламала гэтыя настроі ў вёсцы. Серадняк застаўся за намі—аб гэтым сьведчыць павялічэньне засеву яравога кліну на Украіне і ў іншых мясцовасьцях, бедната моцна трымаецца за партыю, аб чым гаворыць стыхійны рух беднаты да калектывізацыі.

Але-ж тое, што рабілася ў вёсцы не магло не адбіцца, як ужо адмечана раней, на настроях у некаторых партыйцаў, асабліва ў тых, якія бліжэй сутыкаюцца з сялянскім элемэнтам.

У некаторых пачала прасочвацца думка аб тым, што мы ўжо амаль страцілі грунт для ўтрыманьня саюзу з серадняком, і што гэты грунт і далей будзе выплываць з-пад нашых ног, паколькі яшчэ ўперадзе чакаюць нас цяжкасьці з загатоўкаю хлеба. Такія погляды прыводзяць да панікёрскіх вынікаў.

Зразумела, што нашы цяжкасьці ў асноўным зьвязаны з правядзеньнем у нашай аграрнай краіне курсу індустрыялізацыі. Як вядома, індустрыялізацыя патрабуе значных асноўных капіталаў. У адшукваньні гэтых капіталаў мы вымушаны арыентавацца толькі на ўнутраныя рэсурсы. Прыватна-буржуазны сэктар у нашай гаспадарцы грае нязначную ролю, выкачаць з гэтага сэктару для мэтаў індустрыялізацыі што кольвек рэальнае—немагчыма. Замежнай пазыкі нам недастаць.

Застаецца толькі адна крыніца, адкуль мы можам чэрпаць сродкі на індустрыялізацыю—гэта рабочая кляса і сялянства.

Рабочая кляса аддае сваю долю краіне працаю, перадачай у канавы сацыялістычнага накапленьня так званай прыбавачнай вартасьці. Сялянства таксама зацікаўлена ў індустрыялізацыі, паколькі ад апош-

няе залежыць выхад сялянства з свайго сярэднявяковага становішча на вышэйшую ступень колектывізацыі, дзе будзе зьнішчана самая розьніца паміж рабочым і селянінам. Адгэтуль сялянства таксама павінна даваць сваю долю для перабудовы дзяржавы на індустрыяльны, сацыялістычны лад. Гэта складае асноўнае зьвяно, у гэтым галоўны сэнс змычкі паміж рабочай клясай і сялянствам.

Пытаньне толькі ў тым, колькі павінна ахвяраваць на мэты індустрыялізацыі сялянства. Апазыцыя вуснамі Прэабражэнскага імкнулася ставіць сялянскі сэктар нашае гаспадаркі ў палажэньне калёніі. Яна прапанавала выкачаць сялянскія рэсурсы для мэтаў індустрыялізацыі, ня гледзячы на тое, ці парушыць такое выкачваньне саюз з серадняком ці не. Партыя на такі шлях не магла стаць і ня стане. Ахвярнасьць з боку сялянства патрэбна, бо ў гэтым, як я сказаў вышэй, увесь сэнс змычкі з сялянствам, якое толькі пры наліччы гэтай ахвярнасьці пралетарыят зможа павесьці за сабою да сацыялізму, але гэтая ахвярнасьць павінна быць такою, якая-б не пагражала існаваньню самой змычкі.

Усё гэта трэба мець на ўвазе, каб зразумець значэньне тэй уступкі, якую мы зрабілі сялянству падвышэньнем загатоўчых цэнаў на зярно. Мы не адмаўляліся ад уступак сялянству, калі гэта выклікалася важнымі палітычнымі меркаваньнямі. У кастрычніку, калі на чале партыі стаяў У. І. Ленін, мы не застанавіліся над тым, каб правесьці дэкрэт аб соцыялізацыі зямлі, на аснове сялянскіх наказаў, бо гэта дало магчымасьць павесьці за сабою сялянства ў бой за пралетарскую дыктатуру.

І цяпер, у мэтах захаваньня асноўнага прынцыпу дыктатуры пралетарыяту—захаваньня рабоча-сялянскага блёку мы адкрыта ідзем на ўступку ў пытаньні збожжавых цэнаў. Але мы павінны ясна сказаць, што стаць на шлях „восстановительных“ цэн, гэта значыць выбіць ужо самую падваліну, на якой грунтуецца рабоча-сялянскі блёк. Тэорыя „восстановительных“ цэн ёсьць уступка кулаку, у ёй крыецца пагроза зрыву самай асновы рабоча-сялянскага блёку. Тым-жа самым зьяўляецца і тэорыя змычкі з сялянствам праз лёгкую індустрыю. Ня шляхам уступак мы павінны замацоўваць саюз з серадняком і ўцягваць яго пад кіраўніцтвам пралетарыяту ў справу сацыялістычнай перабудовы вёскі, а шляхам забесьпячэньня пралетарыятам эканамічных камандных вышынь у вёсцы (разьвіцьцё каапэрацыйных форм, калгасы, савгасы),—шляхам замацаваньня палітычных апорных пунктаў,—узмацненьне работы з беднатой, забесьпячэньне падтрыманьня з боку беднаты. Мы павінны са ўсёй рашучасьцю адкінуць лёзунг змычкі з сялянствам толькі праз лёгкую індустрыю, які азначае, ня больш ня менш, як адыход ад лёзунгу індустрыялізацыі. Стаць на гэты шлях—гэта значыць фактычна адмовіцца ад вядучай ролі гораду, бо толькі праз індустрыялізацыю магчыма і сацыялістычная перабудова вёскі, і перавыхаваньне сялянства ў духу калектывізацыі, і зьнішчэньне самых клясаў.

Лінія, якую павінна працягваць партыя ў адносінах да вёскі, ясна выражана ў наступных радкох ліпнёўскага Пленуму ЦК: „Партыя ў сваёй палітыцы павінна выходзіць з рашучай барацьбы як з тымі элемэнтамі, якія зьяўляюцца выражэньнем буржуазных тэндэнцый у нашай краіне і імкнуцца абыйсьці пастановы XV зьезду „разьвіваць далей наступленьне на кулака“, так і з тымі элемэнтамі, якія імкнуцца надаць надзвычайным і часовым мерам характар сталага, працяглага курсу і гэтым паставіць пад пагрозу справу саюзу рабочых і асноўных мас сялянства“...

„Пленум ЦК заяўляе, што разьвіцьцё сацыялістычных форм гаспадаркі на аснове НЭП‘у вядзе не да паслабленьня, а да ўзмацненьня супраціўляемасьці з боку капіталістычных элемэнтаў пры адначасовым яшчэ большым узмацненьні Савецкае ўлады і яе масавай базы, што не выключае вядомых хістаньняў некаторых слаёў насельніцтва ў выпадку абвастрэньня ўсяе абстаноўкі“.

Выходзячы з гэтай асноўнай лініі партыі, нашай асноўнай устаноўкай у рабоце на вёсцы павінна быць:

1. Палітыка апоры на беднату, узмацненьне работы з беднатой, больш актыўнае ўцягваньне беднаты ў калектыўнае будаўніцтва.

2. Узмацненьне трывалага саюзу з серадняком праз уцягненьне яго ў розныя формы каапэрацыйнага і калгаснага будаўніцтва з аднačасовай дапамогай эканамічнаму ўзросту індывідуальных сельскіх гаспадарак.

3. Далейшае актыўнае наступленьне на кулака (толькі ня мэтадамі так званага раскулачваньня).

У сваім імкненьні і ў рабоце па падняцьці сельскай гаспадаркі мы павінны аб‘яднаць тры задачы—калектыўнае будаўніцтва, будаўніцтва буйных саўгасаў і дапамога індывідуальным бедняцка-сераднецкім гаспадаркам сялянства.

Праводзячы ў жыцьцё намечаныя ліпнёўскім Пленумам ЦК мерапрыемствы ў бягучую хлебазагатоўчую кампанію, кожны партыец павінен памятаць, што „ажыцьцяўленьне пастаноў далейшага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі абавязвае ўсю партыю весьці настойную і сыстэматычную работу па ўзмацненьні палітычнай актыўнасьці і арганізаванасьці беднаты і пад‘ёму яе гаспадаркі“.

---

М. Карклин

# К текущим задачам нового хозяйственного года

Хозяйственный год 1927-28 на исходе. Новый наступает с не меньшими требованиями, заботами и трудностями. И каждый коммунист, какую бы обязанность он, по поручению партии не выполнял, обязан дать себе *теперь* уже четкий и ясный ответ готов ли он встретить новый хозяйственный год (1928-29). Подготовился ли он сам и готов ли тот аппарат, через который он должен осуществить партийные директивы.

Очень часто эта необходимая готовность появляется с опозданием. Партией взят твердый курс на то, чтобы во что бы то ни стало наши хозяйственные планы составить и осуществить подготовленным порядком и не только технической подготовкой, но и политической. это не всегда соблюдалось.

От технической обоснованности зависит многое, но еще больше зависит от политической подготовки. Всестороннее обсуждение, осведомление и привлечение рабочих, крестьян, общественных и научных организаций не только в исполнительной стадии работы, но подготовительной,—есть, другими словами, подготовка более гладкого пути к осуществлению экономических и культурных задач страны.

Возьмем хотя бы такой цикл вопросов, как поднятие производительности труда, снижение строительного индекса, рост заработной платы и вообще поднятие реального материальнего уровня рабочего класса и всего трудового населения или такого вопроса, как снижение себестоимости промышленной продукции и создание промышленных товарных запасов.

По этим вопросам мы в этом году по разным причинам не можем ждать намеченных *нами же* результатов.—Почему?—Такой вопрос должен задать себе каждый рабочий и каждый работник.

Откуда причины просчетов?—если таковые имели место, или где узкое место, не соответствующее общим требованиям роста народнохозяйственного строительства. А такие случаи должны иметь место раз по таким важным и решающим моментам не получено утешительного ответа или, точнее говоря, мы не можем в своих расчетах ждать тех результатов, которые в начале года были намечены в контрольных требованиях.

Просмотрим все эти перечисленные моменты каждый в отдельности.

Мы обязаны были довести снижение строительного индекса до 15 проц. в конце строительноио сезона (1928 год), но эта директива по всем предварительным отчетным показателям сигнализирует, что не будет выполнена. Не будем останавливаться сейчас на том, насколько она не будет выполнена, но остановимся более конкретно на

том факте *что не выполняется* и какие уже сейчас *подбирают* мотивы те организации, от которых зависело выполнение этой важнейшей директивы, чтобы оправдаться и чтобы привести как можно больше „об'ективных" мотивов в „пользу" невыполнения.

Конечно, заранее можно сказать найдутся „мотивы об'ективные", но самое плохое в этих „об'ективных" мотивах заключается то, что они прямо таки „покрывают" суб'ективные моменты. И что этим „покрывательством" *они* делают вторую ошибку еще грубее первой, стушевав действительное положение и этим важнейшую задачу партии ставят под угрозу невыполнения и на будущий год. И теперь, когда необходимо было бы сделать все, что еще возможно успеть, чтобы этот пробел—этот недостаток нашей неповоротливости и технической отсталости был бы как можно меньше чувствителен и для того, чтобы этот запоздалый темп был бы здоровым, удвоенным, утроенным и больше темпом устроен для будущего года,—нечего было бы теперь *некоторым* учреждениям, *некоторым* товарищам искать мотивов оправдания вместо того, чтобы сосредоточить все силы для исправления. Эта страусовская политика вредна для партии и она должна быть из практики работы твердой партийной рукой вычеркнута.

Партия требовала и требует и теперь максимума рационализации, максимума повышения производительности труда и максимума возможного поднятия зарплаты, как и создания необходимых промышленных фондов, но все это неразрывно связано в единое целое. Путем рационализации, удешевления производственных процессов, улучшения выходов, лучшей организации труда и поднятия его производительности,—мыслимо осуществить как снижение себестоимости промышленной продукции, создания большего количества промышленных товаров, удешевляя их, для широкого рабочего и крестьянского спроса, так и поднять заработную плату для рабочих и вообще поднять уровень их благосостояния.

Но для этого необходимо соблюсти установленные соотношения в производственных планах. Примерно: насколько снизится себестоимость производственной продукции, настолько возможно будет снизить и отпускные цены. Запроектировано было снизить себестоимость на 6 проц. и отпускные цены около 5 проц. (разница остается для накопления в промышленности), рост зарплаты возможно было ожидать (номинально) около 7,5 проц., при росте производительности труда на 26 проц. А, спрашивается, теперь будет ли это выполнено?—Кон'юнктура показательно говорит об неутешительных выводах. Снижение себестоимости сильно отстает, рост зарплаты возрос гораздо выше намеченного процента, а это в свою очередь обязательно должно было внести сильнейшие поправки в росте производительности труда. Мы теперь ни в коем случае не можем удовлетвориться запроектированным темпом роста производительности труда на 26 проц. (пока еще и этот процент 26 неясно рисуется будет ли он выполнен или нет), он должен быть гораздо выше так как рост зарплаты перевысил намеченные контрольные цифры.

Апрельский пленум ВКП(б) обязал „*все партийные организации обратить серьезное внимание на установление безоговорочной революционной дисциплины при исполнении обще-хозяйственных планов*, а, спрашивается сейчас, выполнено ли это требование партии?—Получено ли в последние месяцы тревожное собщение о том, что не выполняются директивы партии и были ли предложения что необходимо в связи с этим принять такие или такие-то меры, чтобы эти основные задачи обязательно получили свое осуществление. Мне кажется, что

*нет*—за исключением ряда мелких частных моментов, но как общее правило это не делается, но зато есть другие явления „оправдательного“ или так называемого „об'ективного“ характера.

„Видите ли, развернутая критика и самокритика несколько мешают так прямолинейно провести те необходимые пожелания, для того чтобы поднять производительность труда, сдержать рост зарплаты, пересмотр, и уточнение норм и т. д.“.

— Вот что имеет место и, притом, в довольно крупном размере. Такие оправдания можно услышать.

На эти настроения партией уже была дана, в свое время, надлежащая отповедь—и что критика и самокритика рабочего класса направлена как раз для того, чтобы успешнее провести в жизнь директивы партии, а не наоборот. Самокритика широких рабочих масс должна обязательно указать пути к устранению всех недостатков и сомнений которые встречаются на пути. Прямолинейность нужна в работе, но это не значит, что все нужно обосновывать только приказами, чтобы после сказать, что „приказ издан“.

Эта боязнь у некоторых, непонимающих самокритики, что сейчас нельзя *прямолинейно* провести решение партии является ничем иным, как болтанием в хвосте, но не руководительством и осуществлением важнеиших задач нашего хозяйственного строительства.

Если заработная плата в некоторых местах поднялась больше чем предполагалось и может быть и благодаря самокритике рабочих масс но с одновременным *невыполнением* роста производительности труда, то такая „прямолинейность“ вредна для рабочего касса и ни в коем случае не принесет пользы, а лишь вред,—об этом уже говорилось, что нельзя делить то, что является неделимым.

В нашей работе мы всегда должны стоять за то, чтобы рост зарплаты и вообще реального уровня жизни рабочего был поднят как можно выше, но он в свою очередь связан с неизбежностью увязать и все остальные концы, от которых зависит обеспечение этого же роста.

На этот раз мы имеем то, чего не предполагали, мы имеем явные прорыв по некоторым предприятиям в намеченных всеми признанных расчетах. Критика и самокритика обязательно должна быть теперь направлена на *это же* слабое место и ни в коем случае она не должна быть отведена на другую линию т.-е. на линию: все хорошо, все гладко.

И если мы имеем ряд случаев, что после критики и самокритики и пришлось поднять и зарплату или пересмотреть нормы вызванные рациональностью и необходимостью, то от этого никакой беды не должно быть, значит там было упущение, которое исправлено. Но каждое исправление надо всегда довести до логического конца, т. е. чтобы общие итоги требуемые партией и самим рабочим классом, были бы выполнены, а не сорваны—это не менее важная задача, чем первая, при этом покрывающая все остальное.

„*Только при осуществлении суровой пролетарской дисциплины во всем хозяйственном аппарате возможно без более или менее значительных перебоев итти по пути к социализму*“, так предупредил нас предпоследний (апрельский) пленум ВКП(б) и особенно проверенно это требование придется нам учесть и выполнить по отношению сельско-хозяйственных мероприятий, где наше влияние в селе, в деревне гораздо слабее, чем на заводе или фабрике.

Прошлогодние хлебные и сырьевые заготовительные кампании требовали внеочередных и чрезвычайных мероприятий для того, чтобы

не были сорваны наши народно-хозяйственные планы. Эти внеплановые мероприятия были вызваны исключительно для того, чтобы плановые мероприятия были осуществлены. Затруднения временного характера, вызвавшие и временные усиленные действия враждебных классовых сил в деревне (кулаки), а также в городах (спекулянты—торговцы) и примененные к ним необходимые меры судебно-административного порядка, -теперь последним решением пленума ВКП(б) отменены, но это ни чуть не значит, что враждебные нам силы уже прекратили свое существование и благодаря этому можно почить на лаврах Нет, они имеют место и борьба с ними не должна быть ослаблена, а наоборот усилена.

Сейчас мы проводим осеннюю посевную кампанию. Правильно разрешить сейчас вопрос осенней посевной кампании -это предрешить в большей своей части задачи и весенней посевной кампании 1929 года, так и частично определить осеннюю кампанию того же года. Вот почему особенно важно серьезно провести все моменты этой важной кампании. Осенняя кампания должна пройти под углом зрения расширения, насколько сейчас возможно, посевного клина (1 $^0/_0$) и создать такие условия, чтобн урожай поднялся как можно выше. Развернугая сейчас кампания вокруг возможности и необходимости поднятия урожайности должна пройти гораздо глубже, чем она поставлена сейчас. Крестьянство пока еще мало участвует в этих обсуждениях. Агрономический персонал -аппарат не вполне ясно и активно дает отбой всяким сомневающимся мнениям -возможноли вообще при теперешней системе (протекция в отношении бедноты и середняка) ведение государственной политики по линии кредитов, удобрения, машин и т д. поднять урожай, как бы это ни хотелось. На такие рассуждения должен быть дан совершенно твердый — ясный и резкий ответ. *Да, можно.*

Нельзя строить сейчас свои расчеты на довоенных средних показателях роста урожайности, как и нельзя основываться на урожае последних двух годов, благодаря их непоказательности, как недородных. Надо, главным образом, поставить вопрос так, что теперь на данной стадии урожайность в значительной степени зависит от тех агрономических мероприятий и государственной помощи, которую государство оказывает для большей части крестьянства. А ведь всем понятен вопрос, что большая часть валовой продукции и товарной части зерновых культур должна находиться в руках мелкого и среднего крестьянства, благодаря чему и наша линия *обязательно* и *без опоздания* должна быть по линии кредита, удобрений и машин, направлена бедняцким и середняцким хозяйствам, а не кулацким.

Отсюда большое место должна занять работа по контрактации Умелое осуществление в этом году контракции *на деле* при взятой твердой линии на рост получения урожая по осеннему клину (около 2,5 3$^0/_0$), как и повышение цен на хлеб—все это в итоге не должно отразиться на технических культурах. Для этого мы должны так подготовить, проверить свой торгово-заготовительный аппарат, чтобы прошлогодние ошибки были бы устранены, надо заранее предвидеть, что будут случаи желания не выполнять контрактационных договоров и т. п. явления. Нельзя ни в коем случае эти явления передавать случайным разрешениям, как это имело место в прошлой кампании, когда в одном из округов было установлено, широко практиковавшееся, что судебные приговора механически выполнялись путем передачи сельскому милиционеру (до 40 штук сразу) и он *по своему* усмотрению определял с кого взыскать, с кого подождать, одним словом, что он,

этот милиционер, классовую политику определял и проводил в деревне, на деле (по своему усмотрению), *а не те*, на кого эта задача была возложена и не так, как требовала партия.

Таким образом надо еще и еще раз проверять, чтобы не опоздать как с директивами, так и с мерами материального свойства. От лишней проверки ущерба не будет, так как данные о весенней кампании говорят пока, что партийная линия в деревне не всегда получала правильное преломление в действительной обстановке.

Причем, уместно здесь еще раз обратить внимание на задачи по мобилизации средств населения на социалистическое строительство и какую особенно роль должна сыграть в этом деле наша кооперативная система. Сельско-хозяйственная, потребительская и др. специальные виды кооперации получая все большее и большее развитие должны полнее охватывать представителя мелкого производства и потребления, для этого широко и глубоко она должна развернуть свою работу. С общим ростом народного хозяйства должна, естественно, расти и роль кооперации, как стимулирующего аппарата по кооперированию и коллективизированию крестьянских хозяйств и как аппарат по привлечению и использованию накоплений у населения. Но между тем, судя по результатам, хвалиться пока не приходится,—когда сельско-хозяйственная кооперация сейчас фактически имеет средний оплаченный пай около 5 руб. 50 коп. за год, а по потребительской сельской сети полагается в конце этого года пай довести до 6 р. 25 к. в среднем. Этого недостаточно,—если учесть как общий рост сельского хозяйства, так и те задачи, которые сейчас лежат на кооперативной системе, хотя-бы только по посредническому товарообороту.

Без вовлечения общественных средств в наше строительство не будет создана та широкая возможность по оказанию содействия в деле помощи бедноте и середняцким хозяйствам быстрее поднять свое хозяйство на более высокий уровень, чем теперь,—это необходимо, иметь в виду в первую голову. Таким образом и по сельско-хозяйственной линии мы видим, что лишь критически—по пролетарски отнесясь к своей собственной работе—мы сумеем устранить и проконтролировать, провести намеченные мероприятия, имея при этом в виду, что каждая отдельная часть плана должна быть связана с общим планом народного хозяйства, иначе никогда нельзя будет создать в достаточном размере и по приемлемой цене промфонды, если они не обеспечены будут сырьем по приемлемой цене, *по цене обеспечивающей интерес развития социалистического строительства.*

Промышленность же в свою очередь обязана так составлять и выполнять свои производственные планы, чтобы те необходимые сельско-хозяйственные машины и исскуственное удобрение, от которых мы ждем многого по части разрешения проблемы поднятия урожая, своевременно были представлены крестьянству.

И здесь мы обязаны опять вернуться к уже не раз освещавшемуся вопросу о нашей плановости в капитальном строительстве. Просчеты хозяйственных организаций, особенно при техническом осуществлении планов, в некоторых случаях чрезмерно велики, при этом усугубляясь еще и тем обстоятельством, что расчеты по снижению строительного индекса не выполняются, а в отношении предметного оборудования—частенько не по их вине меняются как сроки выполнения, так и сама цена, и качество их. Новый хозяйственный год должен дать в этом деле ряд существенных изменений, во-первых, своевременные представления, рассмотрение и утверждение самих планов как с экономической, так и с технической стороны и потом определение

финансовых планов. Мы долго не осуществляем установку XI с'езда КПБ(б) по директивам к построению пятилетнего перспективного плана развития народного хозяйства, что *„запроектирование новых предприятий должно соответствовать линии на окончание строительства в более короткий срок „лучше меньше предприятий, но за то в более короткий срок строительства"*.

Пока еще часто планы как-то пропускаются наспех и благодаря этому полагаются друг на друга—„авось *такой-то* орган хорошо подготовил", а *тот* представляя, полагает,—наверно, если там будут ошибки, они укажут", *а в итоге*—вопрос проходит не вполне подготовленным и лишь через год или даже раньше все это больно начинает отражаться на общем плане строительства.

Надо теперь со всей откровенностью представить, что „излишнее" доверие недопустимо, надо требовать все необходимые данные по проверке и качественной подготовке, без этого мы не поможем друг другу и никогда прочного плана без ошибок не создадим.

Поменьше заявочного и авансового строительства под неизвестной финансовой базой, под неизвестные сроки и под неизвестные технические расчеты планов. Обильные нарушения, теперь, этих элементарнейших требований не дают нам возможности осуществить то, чего требует XI с'езд КПБ(б) (о сроках строительства) В итоге надо со всей ясностью сказать уже сейчас, что развивающийся сейчас ряд промышленных отраслей аналогичных государственной промышленности, как по трудколлективам, кустарной промышленности, одним словом, с чьей бы стороны это не было, не должно тормозить развития государственной промышленности и этим некоторым образом не подрывать ценностей тех капитальных вложений, которые производит государство.

Не правы будут те товарищи, которые полагают возможным *несколько* (хотя бы) изменить линию по таким отраслям как кожевенная, лесопильная и др., которые по существу уже монополизированы государственной промышленностью. Надо теперь совершенно твердо сказать, что параллельные промышленные отрасли и предприятия могут развиваться лишь как дополняющие и обслуживающие государственную промышленность, а не иначе. И если та или другая артель лесной или кожевенной промышленности может пока существовать, то лишь как исключение, и, как исключение рассматривая в своем практическом разрезе,—но ни в коем случае не как пересмотр существующей линии.

Капитальные затраты по государственной промышленности мы должны получить обратно в самый кратчайший срок и в самых эффективных размерах. Это же требование, не в меньшей степени пред'является и к тем затратам, которые идут по другим линиям народного хозяйства или культуры. Одним словом двигаться вперед нестолько широким охватом, сколько качеством, не забывая при этом, что наша работа будет проходить при наличии классовой борьбы, но при неустанном росте обобществленного сектора во всем народном хозяйстве, вызывающего этим своим напором и сильное сопротивление со стороны частного сектора,- но единой линией, с подавляющим большинством крестьянства, и рабочий класс под руководством партии разрешит те задачи, которые выставляет перед нами новый хозяйственный год, новый год социалистического строительства.

Ан. Сталевіч

# Сялянскія партыі ў Заходняй Беларусі

Заходняя Беларусь пакалечаная, абрабаваная імпэрыялістычнай вайной пасьля Рыскага міру, папала пад бот польскаму пану, які з благаславеньня тагочаснай Антанты, з традыцыйным шляхоцкім буянствам і ганарыстасьцю вышаў на шырокую дарогу свае гісторыі, поўнай вызыску, драпежніцтва і гвалту.

Упарадкаваць Польшчу пасьля вайны, надаць ёй выгляд „вялькего моцарства", узмацаваць, паявілічыць новы дзяржаўны апарат усе гэта польская буржуазія праводзіла за кошт няшчаднага рабаваньня багацьцяў беларускіх і украінскіх зямель, за кошт эксплёатацыі і руйнаваньня народаў гэтых зямель. На адбудову і разьвіцьцё прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, на адбудову вёсак, гарадоў і інш. урад ішоў з дапамогай, галоўным чынам, у этнографічнай Польшчы. На Заходняй Беларусі ўрад арыентаваўся выключна на заможныя польскія клясы, узмацоўваў усялякімі спосабамі, стараўся пашырыць іх, як сваю базу ў акупаваным краі. Гэтая каленіяльная палітыка акупантаў асабліва яскрава адчувалася ў правядзеньні так званай зямельнай рэформы, пры якой парцэляваныя маенткі на Заходняй Беларусі пераходзілі ў рукі ваенных асаднікаў і польскіх калёністых, якія тысячамі наяжджалі з цэнтральнай Польшчы. Беларускія сяляне, не выключаючы і кулака, ня мелі доступу пры парцэляцыі, хоць зямельны голад у значнай меры гастрэй адчуваўся чымсь нават за царскімі часамі. Таксама і для беларускай інтэлігэнцыі ня толькі былі закрыты ўсе магчымасьці для прылажэньня сваіх сіл, але яе яшчэ і прасьледвалі як „антыпанствоўцаў" (варожых польск. дзяржаўнасьці) за яе нацыянальнае выяўленьне.

У той час абшарнік і асаднік на Заходняй Беларусі маюць усе прывілеі перад ня польскімі заможнымі клясамі. Яны маюць дзяржаўную дапамогу, крэдыты, на іх карысьць вырашаецца зямельная рэформа, ім, як пераможцам, даецца вольная рука распараджацца ў акупаваным краі, рабаваць краёвыя багацьці, выкарчоўваць усё ня польскае, бязмерна эксплёатаваць „быдла і хамаў", самасудам распраўляцца з непакорнымі, агнем і мячом нішчыць бальшавікоў

Асаднік прапівае крэдыт, выціснуты з поту працоўных мас, а зямлю здае на кабальных варунках мясцоваму сялянству,—абшарнік цар і бог на вёсцы. Абшарнік, асаднік, ксёндз, верхаводзяць у гміне, старостве, судзе. Выразная няпольскасьць краю, з яго ярка характарнымі самабытнымі беларускімі рысамі, яшчэ больш прыводзіць да зухвальства акупантаў, якія не перабіраюць у сродках для апалячваньня і прышчэпваньня г. з. „эўрапэйскай культуры на дзікіх палех". Беларус стаў сынонімам бальшавіка, беларус гэта вораг Польшчы. Такі быў падыход у мясцовых кацыкаў, у дробных сошак, якія на кожным кроку сутыкаліся з беларускімі сялянамі, а высокая палітыка ўраду, палітыка на экспарт зусім не прызнавала існаваньня беларускага народу. За кароткі час было ліквідавана некалькі сот бела-

рускіх школ, блізка сотні беларускіх каапэратываў, сыстэматычна зачыняліся беларускія газэты, ня гледзячы на іх палітычны кірунак, выключаючы, разумеецца польскія газэты, якія выдаваліся у беларускай мове (Алексюкоўская „Еднасьць“ і „Страха“). Тугат—гэты славуты творца Тугатаўскіх рэформ і „кругавых парук“ на працэсе Грамады, успамінаючы часы Хьена-Пяста, прызнаўся, што тады ішла плянавая кампанія, якая мела на мэце зьнішчыць беларускую школу наогул. Удар па беларускай школе дзеля таго быў такі рашучы і няшчадны, бо барацьба за родную школу зьяўлялася найбольш ярким выяўленьнем нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу.

Малады вялікадзяржаўны польскі імпэрыялізм, гэты матчын сынок „матёрых“ міжнародных імпэрыялістых, пайшоў да свае мэты па сьлядох царызму, але са шляхоцкім буйствам і езуіцкай запальчывасьцю.

Калёніяльная рабаўнічая палітыка буржуазных урадаў Польшчы, палітыка бязьмежнай эксплеатацыі нацыянальнага ўціску і нічым незахаванага тэрору, прывяла і без таго зруінаваны праз вайну край, да гаспадарчага рэгрэсу, да поўнага заняпаду Яскравым паказьнікам рэгрэсу зьяўляецца колькасны спад прамысловасьці і лік рабочых у Зах. Беларусі. У 1912 годзе у Зах. Бел. налічвалася 776 цэнзавых прадпрыемстваў з 28 179 рабочых, а у 1922 годзе налічаецца ўсяго 243 прадпрыемствы з 10 372 рабочых. Адзначаецца рэзкае памяншэньне насельніцтва па гарадох, і асабліва у прамысловых цэнтрах Зах. Беларусі. Гародня, Беласток, Вільня, Берасьце, Пінск, у 1910-1911 годзе налічвалі насельніцтва блізка 449 тысяч, а ў 1919-21 г.г. 293 тысячы, менш на ... У Беластоку рабочых занятых на прадпрыёмствах у 1913 г. было 5192, а ў 1926—гэта лічба зьнізілася на 3545. У адносіне да усяго насельніцтва шпарка расьце процант сельскага насельніцтва: у 1927 годзе яно раўнялася 55 проц, цяпер перавышае 80 проц., а ў некаторых паветах даходзіць да 95 проц

Калёніяльная палітыка буржуазных урадаў у Польшчы прывяла да застою і заняпаду таксама і сельскую гаспадарку. Пасяўная плошча Зах. Беларусі у параўнаньні з даваеннай даходзіць да 83,6 проц, павялічэньне пасеву жыта і памяншэньне ячменю, пшаніцы і аўса сьведчыць аб экстэксіфікацыі сельскае гаспадаркі. Значна зьменшыўся ужытак штучнага угнаеньня, зьнізілася ураджайнасьць, а ў жывёлаводзтве адзначаецца прагрэсыўнае павялічэньне аўцаводзтва і значнае памяншэньне сьвінаводзтва, што таксама сьведчыць аб экстэксіфікацыі сельскае гаспадаркі.

Такім чынам панаваньне праз колькі год польскай буржуазіі вельмі шпарка распарушыла тыя ілюзіі, якія пасеяў у беларускіх масах Пілсудзкі сваімі маніфэстамі, акупіруючы Зах. Беларусь Яго лезунгі—„Вольны з вольным, роўны з роўным“, аказаліся правільнымі ў адносінах да кучкі польскіх абшарнікаў і шляхты, а для асноўнага колькі мільённага насельніцтва краю, гэта быў яшчэ нябывалы на Беларусі разгул тэрору і дзікай расправы над маладым нацыянальна-вызваленчым рухам, які стаў толькі афармоўвацца.

Рэч зусім натуральная, што вочы зьняволенага народу павярнуліся да братняе часткі, да Савецкае Беларусі. Пры гэтым біў у вочы рэзкі кантраст: зямля, фабрыкі, улада—у руках рабочых і сялян; магутнае разьвіцьце роднае культуры, аб тэмпе, якім нават ня сьнілася самым сьмелым і аптымістычным беларускім адраджэнцам. Працоўным масам і значнай часткі беларускай інтэлігэнцыі Менск стаў беларускай Меккай, БССР—абяцанай зямлёй.

На грунце эканамічнага заняпаду краю, на фоне палітыкі ўраду, пад уплывам суседзтва вольнай Савецкай Беларусі, уздымаецца магутны рэволюцыйны настрой сярод шырокіх мас. Кулак, ня маючы задавальненьня сваім інтарэсам, і садзейнічаньня ў эксплёатацыі беднаты і падтрыманьня ў разьвіцьці сваёй гаспадаркі, а часта-густа быў і сам аб'ектам абстрэлу праз польскі шавінізм і імпэрыялізм, таксама быў нездаволены, і ня раз мумрыў пад нос супроць акупацыі, ня раз даваў подпіс пад рэзалюцыі вясковых сходаў з дамаганьнем роднай школы, альбо выпаўняючы стаўку ў гміне, праклінаў наезжага панка, які і яго, мясцовага кулака, залічваў да быдла і хамаў. Беларуская інтэлігэнцыя асьцярожна ў прэсе, але шмат сьмялей і шчырэй развважала паміж сябе, выяўляючы саветафільскія настроі, а то ўздыхне і да Лігі Нацый і параіцца па-сямейнаму, як працістаўіцца калёнізатарскай і палёнізатарскай палітыцы ўраду, палятуціць аб назалежнай Беларускай Рэспубліцы, дэмакратычнай ці сацыялістычнай, ня так важна, абы незалежнай.

Працоўныя масы вёскі стыхійна бунтараць: узброеныя напады на маёнткі, асады, цягнікі, схватка на косы і вілы з паліцыяй за сэрвітуты, партызаншчына, атаманы—Чорт, Скамарох, Муха і др. Няясныя лезунгі, туманныя мэты, пераважна з нацыянальным ухілам, раз паляк—значыць вораг, кожны беларус—барацьбіт, паноў можна выкурыць пажарамі, паліцыю выбіць з-за вугла, ратунак у вайне, у Чырвонай арміі і т. п.

Барацьба рабочае класы адарвана ад барацьбы ўзбунтаванае вёскі, якую яшчэ больш зьбівае з толку народніцкая беларуская інтэлігэнцыя, жыўшая ў вёсцы, бо ў гарадох ня мела прылажэньня сваіх сіл, а да карыта польскай буржуазіі ў той час не допускалася ніякае іншанароднае стварэньне.

„Неспакойныя крэсы“ пачынаюць непакоіць амалоджаную польскую буржуазію, якая спраўляла гучныя ўводзіны ў нова-збудаваную Рэч Паспалітую. Разбушаваўшае мора на „крэсах“ ня толькі не перасьціхае пад гарапнікамі, але з большай сілай б'е ў сьцены Рэчы Паспалітай, збудаванай з тандэтнага і трухлявага матэрыялу Вэрсальскімі штукмайстрамі.

З недабіткаў Найвышэйшай Рады, і так званых Слуцкіх паўстанцаў, на чале з авантурыстым Аляксюком, урад стварае палёнафільскую беларускую арганізацыю *Краёвы Саюз*. Гэтая прадажная белая варона сярод чырвоных пеўняў—„шчырых“ беларусаў, выдае дзьве газэткі „Еднасьць“ для інтэлігэнцыі, і „Страху“ для сялянства, у якіх праз мову беларускіх мас сыплюцца абяцанкі ў галіне школьніцтва і ўгаворы выйсьці з апазыцыі, бо палякі хутка самі ўпарадкуюцца, узмацуюцца, а тады пасобяць і беларусам. Гэтай торбай сена і шумнай агітацыяй Алексюк хоча прабіцца ва ўзбунтаваную вёску, дэзарыентаваць масы і стварыць сярод інтэлігэнцыі палёнафільскія настроі. Сваё палёнафільства і прадажнасьць панскага папіхача Аляксюк прыпадносіў масам ні ў вошта не маскуючы.

Хутка гэтая махінацыя ўраду з трэскам правальваецца: Аляксюк у часе выбараў у Віленскі сойм, які павінен быў правесьці далучэньне Віленшчыны, ці так называемай Сярэдняй Літвы, да Польшчы, выступае са сваім сьпісам і атрымоўвае поўнае паражэньне. Праз нейкі час аляксюкоўшчына бясьсьледна зьнікае з палітычнага кругавіду.

У гэты час беларускі рабочы рух быў вельмі слабы. Камуністычная партыя не ўвайшла яшчэ ў гушчыню сялян і беларускім вызваленчым рухам верхаводзіла беларуская адраджэнская інтэлігэнцыя,

галоўныя сілы якой знаходзіліся ў той час на Зах. Беларусі. Ахопленая ідэяй адзінага нацыянальнага беларускага фронту, гэтая інтэлігэнцыя ня мела яснае мэты ў сваёй барацьбе. Не глядзець на адменнасьць палітычных напрамкаў, не дзяліць беларускі народ, у кожным паляку бачыць ворага, ісьці адным фронтам супроць апалячваньня, як мага больш дэманстратыўна сьвяткаваць угодкі абвяшчэньня Беларусі Народнай Рэспублікай (сакавік 1918 году), лёс беларускага народу— у руках інтэлігэнцыі, шлях да вызваленьня —паўстаньне і побач з тым: выхад з-пад уціску акупацыі —нацыянальнае усьведамленьне народу. Вось вытычныя мэты тагочасных кіраунікоў апазацыйнага і вызваленчага руху на Заходняй Беларусі.

З гэтага хаосу, бездарожжа і беспраграмнасьці інтэлігэнцкіх кіраўнікоў, выручылі выбары ў польскі сойм 1922 году. Былі прынамсі рэальныя мэты, выхад з тупіка, тут можна шмат чаго дабіцца, толькі дружна, толькі усім разам нацыянальным адзінствам, адным фронтам, не ўважаючы на палітычныя кірункі, сацыяльнае паходжаньне, рэлігію і г. д. Выбары—гэта палітычны экзамэн нацыянальнай сьвядомасьці, гэта выйсьце беларускага народу на мапу Эўропы, бо ня жарты— першыя беларускія дэпутаты, голас беларускага народу, ды яшчэ ў парляманце. Паслы гэта будучы ўрад Беларусі, або пакутнікі за яе незалежнасьць. Там у парляманце, у сойме адзіны беларускі фронт зьвяжацца адзіным фронтам з украінцамі і польскай лявіцай, а там, глядзі, школу адваявалі, ну, і пакуль што аўтаномію, а ад аўтаноміі недалёка і да незалежнасьці

І вось у выбарчы камітэт уваходзяць прадстаўнікі розных палітычных кірункаў: беларускія с.-д., беларускія х.-д., эсэры і—беспартыйны поп. Камітэт стараецца непакладаючы рук, працуе даволі спраўна, запушчаючы шчупальцы глыбока ў масы, агітуючы за блёк нацыянальных меншасьцяў—за папоў, ксяндзоў і яўрэйскіх купцоў і сеючы ілюзіі аб парляманце. Адначасна некаторыя сябры камітэту садзейнічаюць і ў перадвыбарчай рабоце Кампартыі, бо чаму не памагчы бальшавіком, калі пад іхнай уладай у Савецкай Беларусі буйнее беларускае адраджэньне.

* *

Выбраны *Беларускі Пасольскі Клюб* ажыцьцёвіў сабою ідэю адзінага нацыянальнага фронту. Клюб блёкуе: эсэраў, сац.-дэмакратаў, хрысьціянскую дэмакратыю, незалежных сацыялістых. Клюб выступіў з гэткай палітычнай пляцформай:

Стаючы на грунце тэрытарыяльнай аўтаноміі з краёвым соймам, да ўвядзеньня аўтанамічнага статуту, дамагаемся:

1) Неадкладнага спыненьня штучнай калёнізацыі і ліквідацыі ваеннага асадніцтва;

2) Прыняцьця лясоў на карысьць дзяржавы і выданьня адпаведнай установы, якая нарміравала-бы выруб лясоў з мэтай забесьпячэньня краю ад руйнаваньня.

3) Увядзеньне ў жыцьцё зямельнай рэформы перад усім забясьпечваючай інтарэсы мясцовай малазямельнай, безьзямельнай люднасьці, бяз выкупу

4) Зварот уцекачом зямлі, сканфіскаванай праз дзяржаву.

5) Адбудова зруйнаваных праз вайну вёсак і мястэчак, а таксама дапамога уцекачом.

6) Разьвіцьцё зямельнай культуры, а перад усім краёвай, праз закладаньне агранамічных, тэхнічных і рамесьніцкіх школ.

7) Свабода арганізаваньня на грунце эканамічнага жыцьця.
8) Неадкладнага выданьня закону, запэўняючага беларускі народ культурнай і асьветнай аўтаноміяй.
9) Дапушчэньне беларускае мовы да самаўраду, адміністрацыі і суда.
10) Няўмешваньне адміністрацыйных улад да рэлігійнага жыцьця.
11) Адміністрацыя з мясцовых элемэнтаў.
12) Увядзеньне дэмакратычных самаўрадаў
13) Суд прысяжных і выбарнасьць судоў міру.
14) Тэрытарыяльная арганізацыя войска.

З гэтай пляцформы відаць, што Бел. Пас. Клюб стаў на шлях частковых дамаганьняў, дасягнуць якіх імкнуўся парляманцкай барацьбой, што галоўная мэта ў барацьбе Клюбу была барацьба выключна за інтарэсы дробнай буржуазіі: інтэлігэнцыі і сялянства, барацьба за краёвую аўтаномію. Атрымаць гэтыя дамаганьні, гэта зн. зьдзейсьніць наказ „беларускага народу“ і паставіць яго лёс на добрую дарогу. Выстаўляць-жа дамаганьні рабочае клясы няма патрэбы, бо рабочыя гарадоў гэта ў значнай большасьці, палякі ці яўрэі, апрача таго, яны маюць сваіх прадстаўнікоў, няхай праз іх дабіваюцца.

Пляцформа Пас. Клюбу вельмі характэрна для тагочасных ідэалегаў беларускага вызваленчага руху, якія складаліся з інтэлігенцыі, у большасьці з нашаніўцаў. Іхная стыхія—гэта беларуская вёска, сялянства; сацыяльная база іхнай работы была дробная буржуазія—розныя пласты сялянства—вось чаму пляцформа Пас. Клюбу мае выразны дробна-буржуазны інтэлігэнцкі характар. Не процістаўляючыся барацьбе рабочае клясы, пляцформа зводзіць барацьбу за вызваленьне Зах. Беларусі выключна к барацьбе за эканамічныя і культурныя інтарэсы сялянства і інтэлігэнцыі, праціскаючы нацыянальна-вызваленчы рух па вузкіх сьцежках нацыянальнага адмежаваньня.

Беларускі Пасольскі Клюб праз нейкі час адбівае бунтарства масы сваіх выбаршчыкаў, выступае як парляманцкая апазыцыя, выступае адналіта ў абароне сялянскіх інтарэсаў. Галасы роспачы, пагрозы, крык аб дапамозе, якія з усіх куткоў Зах. Беларусі стукаліся ў дзьверы сойму, а таксама агонь гістарычнай нацыянальнай і клясавай нянавісьці праз увесь час падаграваў тэмпэрамэнт першых беларускіх паслоў, якіх мяккія крэслы высокай палаты і высокая палітыка, што раз часьцей адцягваюць ад камяністай роднай глебы і жорсткай штодзённай барацьбы мас.

Беларускі Пасольскі Клюб закідвае Сойм інтэрпэляцыямі, у якіх адбіваецца жудаснае панаваньне польскай акупацыі, а старшыня Клюбу пасол Тарашкевіч з соймавае трыбуны пагражае пусьціць з дымам польскія двары і асадніцкія сядзібы на Заходняй Беларусі.

У працэсе выбарчай кампаніі Кампартыя праходзіць у вёску і тут адразу адчуваецца яе кіраўніцтва. Барацьба за зямлю, барацьба супроць эканамічнага і нацыянальнага ўціску, прымае пад яе ўплывам больш масавы рэвалюцыйны характар. Нацыянальна-вызваленчы рух у гэтых варунках падлягае дыфэрэнцыяцыі, выразьней апіраецца на сацыяльны грунт і набывае больш клясавы характар.

Самацёкам, пад напорам рэвалюцыйных масаў афармляецца **Беларуская Рэвалюцыйная Грамада**, якая мае цесную сувязь з вёскай, у якой ёсьць шмат ад народніцтва і эсэраўшчыны, але ў цэлым і наогул крута гне да камунізму і неўзабаве зьліваецца з кампартыяй. Маючы шырокія сувязі з вёскай, кіраўнікі гэтай расплывістай арганізацыі найлепш адчуваюць біцьцё пульсу мас, сярод якіх ідзе рэвалюцыйнае награмаджэньне. Кіруючы газэтай, органам Пасольскага Клюбу,

яны першыя пачулі сваю палітычную адсталасьць і адарванасьць ад барацьбы міжнароднага пралетарыяту, яны першыя ў друкаваным слове, хоць часамі наіўна і няўмела, але заўсёды сьмела і адкрыта, высоўваюць і разглядаюць пытаньні аб „беларускай ўсенароднасьцяй і надпартыйнасьцяи", аб патрэбе клясавай барацьбы, саюзе рабочых і сялян, аб бясплоднасьці славеснай перастрэлкі ў сойме і аб іншых праблемах, якія выростаюць па меры ўздыму нацыянальна-вызваленчай барацьбы. У газэтцы „Сьцяг Народа" чытаем такія радкі:

„Беларускі рух паўсямесна цалком і неадкладна павінен абаперціся на клясавы работніцкі грунт, каб даць беларускаму народу клясавую сьвядомасьць, каб зрабіць з яго волата-змагара за агульна-людзкі, а значыць і свой, дабрабыт, каб ён стаў раўнапраўным сябрам у будучым сялянска-рабочым ладзе.

Унутраны распарадак і розныя другарадныя пытаньні ў гэтым працоўным ладзе, будуць вырашаны па справядлівасьці, пасямейнаму, вырашаны грамадой.

Нацыянальнае пытаньне, як паказала нам жыцьцё, можа быць вырашана і зрэалізавана толькі пры дыктатуры пралетарыяту. Жывы прыклад—Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, дзе, пры ўзаемнай дапамозе, даецца шырокі простор для разьвіцьця кожнай нацыянальнай культуры.

А у другім артыкуле:

„Не адкладаючы на далей і не спадзяючыся ні на нікога, малазямельныя і безьзямельныя сяляне, павінны дружна выступіць разам з рабочымі гарадоў, за паляпшэньне свайго быту, за сваей жыцьцёвай патрэбай, як зямля і хлеб. Трэба памятаць адно, што ані рабочыя без сялян, ані сяляне без рабочых, не даб'юцца сваіх правоў. Толькі супольнымі сіламі, толькі аб'яднаўшыся ў вялікую сусьветную грамаду працоўных, дружным выступленьнем можна асіліць ворага".

Як-бы прадбачачы хістаньні ў Беларускім Пасольскім Клюбе, тая-ж газэта у 1923 годзе у артыкуле пад загалоўкам „Горкая Праўда" кажа:

„Фашыстаўская пагроза павінна яшчэ цясьней аб'яднаць нашых паслоў з народам, аб'яднаць у адну сям'ю. Мінулая соймавая праца паказала сваю бясплоднасьць у сэнсе паляпшэньня быту працоўных. Зразумела, што нашым паслом трэба зьвярнуць усю ўвагу на вёску, зьвярнуцца туды, адкуль самі вышлі, вярнуцца дахаты і ратаваць жыхароў гэтае хаты, ад уплываў клерыкальных колаў і буржуазнае ўгоды—пэпээсаўцаў, вырываць з кіпцяў польскіх фашыстых.

Мітынгаваць па кірмашох дужа добра, але гэтага мала. Пасол, як недатыкальная асоба, можа і павінен шмат іншае рабіць—ён свабодна можа праводзіць арганізацыю сялянскіх і работніцкіх мас, ён можа адкрыта стаць на чале работніцкага руху.

З сорамам трэба прызнацца, што ў другой сталіцы Беларусі—у Вільні, да гэтага часу ні разу ня было справаздаўчага пасольскага мітынгу, у тэй-жа Вільні ёсьць аб'яднаных у праф. арганізацыі да 40.000 рабочых".

Гэты ўзрост клясавае сьвядомасьці ў беларускай інтэлігенцыі, зьвязанай з масамі, сьвядомасьці таго, што апорай беларускага нацыянальнага вызваленчага руху павінны быць толькі працоўныя масы, саюз рабочых і сялян, а галоўным чынам, усё часьцейшыя і большыя

партызанскія выбухі паставілі перад урадам задачу вышукваньня новых мэтадаў разгрому і прыдушэньня рэвалюцыйнай барацьбы, новых мэтадаў „заспакаеньня крэсаў". Вастрогі, карныя экспэдыцыі, асаднікі і абяцанкі Аляксюка давалі адваротныя вынікі: на кожны гэткі ўдар вёска адказвала большай зьнітованасьцю і стойкасьцю.

— Патрэбны рэформы!—крычэла пэпээсаўская прэса.

— Узмоцніць рэпрэсіі—з абурэньнем дамагалася хьена-пястоўская і эндэцкая прэса.

Урад зрабіў тое і другое; узмоцніў белы тэрор і пайшоў, на так званыя тугутаўскія рэформы, якія заключаліся ў нязначных падачках для беларускага кулака, у эканамічнай і культурнай галіне (грашовыя і насенныя пазычкі, лес на адбудову, двуязычныя школы і т. п.). Адначасна на гэтым грунце ажыла новая аляксюкоўшчына—Тымчасовая Беларуская Рада, якая прыняўшы пад увагу няўдачы Аляксюка, хітрэй, як ён, замаскавала палёнафільства і контр-рэвалюцыйнасьць.

Трэцяя канфэрэцыя Камуністычнай Партыі Зах. Беларусі ў сваёй рэзолюцыі так ацэньвае тугутаўскія рэформы:

> „Стаўка польскага ўраду на „крэсавага" кулака, якая выявілася, у так званых, тугутаўскіх рэформах, і законе аб парцэляцыі і асадніцтве, прысьпяшыла працэс расслаеньня сялянства на Зах. Беларусі і абвастрыла клясавую барацьбу на вёсцы. Гэтая палітыка ўраду выклікала таксама расслаеньне ў дагэтуль адзіным Беларускім Пасольскім Клюбе, з якога выступілі прадстаўнікі інтарэсаў незаможнага сялянства, паслы Беларускай Рабоча-Сялянскай Грамады, а з другога боку, ажыўленьне дзейнасьці дробна-буажуазных і кулацкіх партый на вёсцы Зах. Беларусі.

Першыя падачкі польскага ўраду мазанулі па губах беларускага кулака. Забыты і пакрыўджаны дагэтуль, цяпер ён зразу ўстрапянуўся, вельмі жвава пачаў этрасацца ад рэвалюцыйнай вёскі, з надзеяй яшчэ пажывіцца аб'едкамі з панскага стала. Палітычным выражэньнем гэтага запачаткаванага расслаеньня на вёсцы быў раскол у Беларускім Пасолькім Клюбе.

Такім чынам, напор усё больш рэвалюцыянізуючыхся мас, пашырэньне ўплыву кампартыі, узрост роднай культуры і сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР з аднаго боку, і з другога—падачкі, абяцанкі і націск рэпрэсіямі праз урад вельмі лёгка разьбілі штучную еднасьць Беларускага Пасольскага Клюбу. З гэтага часу рэзка выяўляюцца рознатвары гэтага Клюбу, а таксама ідэалегічнае разыходжаньне, розныя палітычныя і эканамічныя ідэалы паміж сябрамі гэтага Клюбу. Раскол у Клюбе мае вялізарнае гістарычнае значэньне ў вызваленчай барацьбе Заходняй Беларусі, бо разьбівае назаўсёды адзіны нацыянальны беларускі фронт, уносіць дыфэрэнцыяцыю, ажыўляе, крысталізуе, дае шырокі размах нацыянальна-вызваленчаму руху. З гэтага часу вырысоўваюцца і крысталізуюцца два палітычныя напрамкі: левы—сацыялістычны, рэвалюцыйны і правы—нацыяналістычны і згодніцкі.

Левая частка, якая адкалолася ад Клюбу—**Беларуская Сялянска-Рабочая Грамада** лічыла, што вырашэньне ўсіх сацыяльных і нацыянальных праблем можа быць зьдзейсьнена толькі апіраючыся на шырокія працоўныя масы, толькі шляхам няшчаднага клясавага змаганьня; што шлях да нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня ляжыць праз саюз рабочых і сялян, праз стварэньне рабоча-сялянскага ўраду. Замест лёзунгу адзінага нацыянальнага фронту, які застаўся векаваць у Пасольскім Клюбе, БСРГ выкінула лёзунг адзінага фронту працоўных мас усяго сьвету.

Правая-ж група Беларускага Пасольскага Клюбу надавала інтэлігэнцыі дамінуючую ролю ў барацьбе за незалежнасьць Беларусі, спадзяючыся праз гэтую інтэлігэнцыю, шляхам парляманцкай барацьбы дамагчыся у рамках буржуазнай Польшчы задаваленьня эканамічных і культурных патрэб беларускага насельніцтва.

. .

**Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада** ужо фармальна ня існуе. Партыя абвешчана нелегальнай і распушчанай. Сотні сялян і рабочых, актыў Грамады, вырваны рэпрэсіямі і кінуты у астрогі. Кіраунікі Грамады: Тарашкевіч, Рак Міхайлоускі, Мятла, Валошын і інш.—засуджаны на доугія гады катаргі. Аднак Грамада, справакаваная беларускімі згоднікамі, разьбітая белым тэрорам, прыдушаная фашыстоўскімі законамі, скаваная па руках і нагах і кінутая ў каменныя мяшкі абшарніцка-капіталістычнай Польшчы, жыве і творыць сваю справу. Работа, зробленая Грамадой дала пладавітыя вынікі, ідэі кінутыя Грамадой жывуць і пашыраюцца, лезунгі яе праводзяцца шырокімі масамі ў жыцьцё. Аб усім гэтым сьведчыць яскравая перамога рабоча-сялянскіх рэвалюцыйных сьпіскаў на выбарах ў самаўрады і сойм.

БСРГ ня была клясавай партыяй пралетарыяту і сялянства, аднак-жа свэй праграмай стала блізка да камунізму, выражала інтарэсы і настроі серадняцтва і вясковай беднаты, якія зацікаўлены у рэвалюцыі, і, такім чынам, БСРГ зьяулялася сапраўднай радыкальнай партыяй асноўнай масы сялянства Зах. Беларусі

Перш чым заснаваць Грамаду яе паслы прайшлі ў сойме добрую палітычную школу. Яны, не зважаючы на вялікі прыклад згодніцтва з польскай буржуазіяй пачынаючы з Найвышэйшай Рады і канчаючы нядауна сканаўшай Аляксюкоўшчынай,—яшчэ раз апарыліся на згодзе, падтрымаўшы габінэт гэнерала Сікорскага. Польская, так званая лявіца, польская канстытуцыя і сойм, у працягу працы ў сойме, таксама выявілі перад грамадаўцамі свои сапраўдны рэакцыйны твар. Для кожнага масавага работніка, для кожнага не прасьмярдзеўшага наскрозь згодай палітыка, які ня хоча парваць з масамі, стала ясна адно: зварот да мас, да выбаршчыкаў. Але выбаршчыкі палітычна значна вырасьлі. Рэвалюцыйныя сялянскія масы шукаюць арганізацыйных форм барацьбы. Рэвалюцыйны уздым Зах. Беларусі шукае выхаду, выпірае на шырокую арэну барацьбы. Ужо нашаніўскі палітычны капітал—архіўная рэч, з адраджэнцкім багажом далёка не заедзеш, трэба знайсьці такія лёзунгі, такую праграму, за якімі пойдуць шырокія працоўныя масы на барацьбу супроць нянавісных акупантаў.

К гэтаму часу стыхійная неарганізаваная барацьба сялянства уваходзіць пад кіраўніцтвам Кампартыі у рэчышча арганізаванай сьвядомай клясавай барацьбы. Лёзунгі Кампартыі пранікаюць у самыя глухія занядбаўшыя куты, узварушваюць і гуртуюць масы. Сялянская глеба пячэ пяты акупантам. Побач з узростам актыўнасьці клясавай сьвядомасьці і міжнароднай пралетарскай салідарнасьці, побач з пашырэньнем і паглыбленьнем нацыянальна-вызваленчай барацьбы, выяўляецца бурнае імкненьне сялянскіх мас да арганізаваньня барацьбы, да выяўленьня масавае волі, арганізаванага масавага адпору наступу капітала і пераходу да штурму супроць астачарцелае акупанцкае улады.

Дапасоўваючыся да настрою і імкненьняў мільённых сялянскіх мас і паставіўшы перад сабой галоўнейшую задачу: толькі з масамі, толькі барацьба,—грамадаўскія ідэалёгі робяць грунтоўную рэвізію

пляцформы быўшага адзінага Беларускага Пасольскага Клюбу, і ствараюць сваю палітычную пляцформу, якая мае выразны клясава-сялянскі, рэвалюцыйны характар.

Грамада сваёй праграмай, сваёй дзейнасьцю і змаганьнем давяла, што яна была голасам і выяўленьнем волі мільенных падняволенных і эксплёатаваных мас Зах. Беларусі і гэтым трэба тлумачыць нячувана шпаркі рост яе арганізацыі і шырокую папулярнасьць.

Вось вытычныя мэты, якія ставіла перад сабой Грамада:

1. Саюз працоўнага сялянства з рабочымі гарадоў, ясна выражаная пралетарская еднасьць было адно з галоўнейшых прынцыпаў палітычнай праграмы БСРГ.

> Вызваленьне ўсяго працоўнага народу з-пад ярма капіталу і нацыянальнага ўціску—гэта агульная мэта і супольная справа сялян і работнікаў. Зьдзяйсьненьне гэтага магчыма толькі ў цесным саюзе сялян і работнікаў.
>
> Працоўная інтэлігэнцыя ў сваёй лепшай і здаравейшай частцы павінна прылучыцца да такога саюзу сялян і работнікаў, знаходзячы тут шырокі грунт для прылажэньня сваіх творчых сілаў.
>
> Толькі цесны саюз сялян і работнікаў можа ўстанавіць сялянска-работніцкі ўрад. Толькі работніцка-сялянскі ўрад зможа даць прыгнечаным народам волю, сялянам зямлю, работнікам—працу і толькі ён зможа перабудаваць народную гаспадарку і ўвесь дзяржаўны і грамадзкі лад на больш разумных і справядлівых падставах і павесьці народ да лепшае будычыны (Праграма БСРГ).

Гэтая ідэя праходзіць чырвонай ніткай ня толькі ў праграме, друку і соймавых выступленьнях, але і у працы усей арганізацыі Грамады на мясцох, праходзіць праз усю дзейнасьць і змаганьне БСРГ, цесна ўвязваецца з кожным канкрэтным пытаньнем, якое вырастае ў ходзе барацьбы працоўнай вёскі.

У сваім друку Грамада адкрыта і па рэвалюцыйнаму ставіла пытаньне аб саюзе сялян і рабочых і гэта яе рэзка вызначала сярод усіх іншых беларускіх палітычных груповак.

> „Мы адкрыта гаворым, што *пасьля* перамогі працоўных створым моцную, як сталь, рабоча-сялянскую ўладу, каб затрымаць зямлю для сялян, а фабрыкі для рабочых, каб ня даць буржуазіі вярнуць старыя парадкі. Сільная улада буржуазіі скірована супроць працоуных мас, а наша—будзе супроць абшарнікаў і капіталістых. (Орган Грамады).

А ў другім артыкуле накірованым супроць ваеннай небясьпекі маем выразна клясавую ўстаноўку.

> „Мы мусім яшчэ раз цьвёрда і рашуча заявіць, што ад небясьпекі ваенных авантураў, якія пагражаюць нашаму краю аканчальнай эканамічнай руінай і фізычным зьнічтажэньнем яго насяленьня, забясьпечыць нас можа толькі ўлада сялян і рабочых, толькі рабоча-сялянскі ўрад“.

Дэмаскуючы фашыстоўскую палітыку сеяньня дэмакратычых ілюзій, орган Грамады піша:

> „Сяляне і работнікі ня пойдуць змагацца за гэтую форму прыкрытага ярма (Парлямант *А. С.*), якое буржуазія ўзьдзела на іх шыю. Сяляне і рабочыя ўжо ведаюць, што толькі свая ўлада, улада працоўных, можа даць ім вызваленьне“.

„І гэтым—на руінах польскага парлямэнтарызму, працоўныя Польшчы ўздымаюць свой сьцяг з лёзунгам. Няхай жыве рабоча-сялянскі урад.

Гэты лёзунг напісала на першым месцы сваей праграмы і БСРГ. За гэтым лёзунгам дружнымі радамі пойдуць сяляне і рабочыя Заходняй Беларусі, змагаючыся за зьдзейсьненьне яго..

(З прэсы Грамады).

Як вянок кожнага выступленьня ў сойме грамадаўцаў ёсьць настаўленьне мас на барацьбу за „сялянска-рабочы“ ўрад.

А іншаю дарогаю, якая вядзе да вызваленьня, як працоўных масаў у Польшчы, так і народаў паняволеных праз Польшчу – ба-есьць упартая барацьба з урадам буржуазіі і яе памоцнікаў, барацьба за рабоча-сялянскую уладу. Толькі гэтакі урад можа адчы-вывесьці Польшчу з прырвы крызысу і паніжэньня, ён-жа нiць дарогу да вольнасьці для беларускага і украінскага народу“.

(Прамова пасла Валошына).

„Толькі тады, калі селянін і рабочы возьме ўладу ў свае А. С. рукі, толькі тады гэтая справа (зямельная рэформа, будзе вырашана, але сяньня апрача шкодных ільлюзіяў, апрача дражненьня, нічога добрага гэтая „зямельная рэформа „ня дасьць“.

(Прамова пасла Тарашкевіча).

І ў сваей штодзеннай дзейнасьці Грамада ўвязвала барацьбу сялян з барацьбою рабочых. Паслы Грамады ня раз крыўду, імкненьні, жыцьце-быцьце беларускай вескі, пераносілі ў гушчу працоўных мас гораду Беларусі, у гушчу рабочых палякаў і яўрэяў. У перадавіцы „Народная Справа“ чытаем:

„Горадня, Беласток, Бярэсьця, Пінск, -найвялікшыя рабочыя цэнтры Заходняй Беларусі — з энтузіязмам прывіталі выступ леньні на вечах пасłоў Грамады. Там ужо пазакладваны гурткі, якія далі значную лічбу сяброў партыі.

І далей ідзе апісаньне Грамадаўскага мітынгу ў Вільні:

„Заля, дзе адбываўся мітынг, была перапоўнена, як ніколі. Прыйшлі ня толькі беларусы, прышлі рабочыя ўсіх нацыянальнасьцяў і гэтым засьведчылі публічна, што ў барацьбе за вызваленьне працоўных—*усе рабочыя браты!* А ход мітынгу паказаў, што Віленскія рабочыя, як палякі, так і яўрэі, роўна адчуваюць крыўду працоўнага беларуса гораду і вескі, і гатовы супольна з ім змагацца за волю

2. Грамада рэзка выступіла супроць нацыянальнай абмяжованасьці, нацыянальнага шавінізму, якія зьяўляюцца адным з прылад буржуазіі для разьбіцьця міжнароднай пралетарскай салідарнасьці працоўных мас. У сваей праграме Грамада, ставячы сабе за мэту весьці працу ў духу міжнароднай салідарнасьці пралетарыяту, дамагаецца самавызначэньня усіх народаў і лічыць, што „беларускія землі павінны быць злучаны і аб'яднаны ў незалежнай Рэспубліцы пад уладаю сялян і рабочых“.

Тлумачэньне і паясьненьне гэтага пункту праграмы, знаходзім у грамадаўскім друку і соймавых выступленьнях.

„Мы павінны дамагацца перамогі працоўных мас усяе Польшчы, бо толькі тады дасягнем нацыянальнага вызваленьня. Ва ўмовах буржуазна-дэмакратычнай Польшчы нашае нацыянальнае адраджэньня немагчыма.

(З перадавіцы Грамадаўскага органу).

У другім месцы знаходзім яшчэ больш цесную ўвязку вызваленчай барацьбы працоўных мас Зах. Беларусі з рэвалюцыйнай барацьбой пралетарыяту Польшчы:

„На доўгім шляху барацьбы за сацыяльнае вызваленьне нашы каляіны зыходзяцца з каляінамі польскага пралетарыяту і сялянскай беднаты“...

„Мы верым, што раней, ці пазьней, сацыяльная барацьба ў Польшчы мусіць закончыцца *перамогай рабочых мас.* І гэта будзе адначасна *і наша перамога*, бо працоўныя ня могуць трымаць у няволі працоўных“.

(З прэсы Грамады).

На Заходняй Беларусі сялянства у той час слаба адчувала у сваей вызваленчай барацьбе кіраўнічую ролю пралетарыяту гарадоў Беларусі, які у значным ліку складаецца з палякаў, а ужо аб увязцы барацьбы з пралетарыятам Польшчы было яшчэ цяжэй гаварыць. Селянін, першым чынам, стыкаўся з палякам у асобе абшарніка, асадніка паліцыянта, чыноўніка, зносячы ад іх ня толькі эканамічны вызыск, але і нацыянальнае прыгнечаньне. У дадатак і гістарычныя ўмовы так скаліся, што селянін у польскім пану бачыць абавязкова свайго адвечнага ворага. Калі далучыць да гэтага палітыку польскай буржуазіі, накіраваную да прышчапленьня нацыянальнага антаганізму, дык адгэтуль ясна, наколькі сярод беларускага сялянства моцна узгадована пераконаньне, што польскі народ зьяўляецца прыгнятацелем Заходняй Беларусі. Карэньні сэцэсыі Кампартыі Заходняй Беларусі, якая зьявілася напярэдні расколу у Беларускім Пасольскім Клюбе, таксама растуць з гэтага грунту. Прымаючы усе гэта пад увагу, трэба адзначыць, што кіраўнікі Грамады, б'ючы у лоб беларускаму нацыяналізму і працягваючы братэрскую руку пралетарыяту Польшчы, выказалі сваю клясавую сьвядомасьць, рэвалюцыйнасьць, выявілі сваю падлегласьць уплыву Кампартыі.

Пасол Тарашкевіч у сваей прамове ясна фармуляваў саюз працоўных мас дзьвюх нацый: пануючай і падняволенай.

„Шырокія масы польскіх сялян зразумеюць, што толькі супольная барацьба разам з украінскімі і беларускімі сялянамі і братэрскі саюз з рабочай клясай, можа даць пабеду над эксплёататарамі“

З Нясьмелую парляманцкую апазыцыю былшага Беларускага Пасольскага Клюбу Грамада пертварыла у няшчадную клясавую барацьбу мільенных мас. „*Спыненьне барацьбы—гэта ужо паражэньне*“. вось лёзунг Грамады.

„Толькі нясупынным змаганьнем мы сапраўды здолеем абараніць свой народ ад вынішчэньня яго пад „апякунскім крылом“ польскае дзяржавы“.

„Наша барацьба паказуе, што лінія, па якой ідуць беларускія радыкалы—лінія самай рашучай апазыцыі і змаганьня з сучаснымі валадарамі Польшчы за нашы правы і волю, зусім правільная“

(З перадавіцы газэты БСРГ).

З гэтае ўстаноўкі выцякала і барацьба супроць згоднікаў розных гатункаў і нацыянальнасьцяй, барацьба, як з агентамі буржуазіі, якія з сярэдзіны імкнуцца паслабіць і разьбіць вызваленчую барацьбу сялян з мэтай перацягнуць іх пад уплыў буржуазіі. І дзеля таго Грамада сьмярцельным боем абстрэльвала ўсякую згоду.

„Ведама *сапраўдная* згода ці ўгода між народамі магчыма толькі пад лёзунгам: „Роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі", якога так надужывала і надужывае польская буржуазія. Такая ўгода, якая прызнала-бы права не дзяржаўнага народу *на самаазначэньне*, магчыма толькі пры існаваньні ў дзяржаве *ўлады сялян і рабочых*, якія ведама не зацікаўлены ва ўціску такіх-жа сялян і рабочых другой нацыянальнасьці. Але ня воля, асабліва, калі яна трывае даўжэйшы час, родзіць *другі від угоды*, які ня мае нічога супольнага са справядлівым разьмежаваньнем вольных народаў. Гэта ўгода спадлеўшага ў няволі *раба з сваім валадаром, лёкая—з панам*. Угода, на якую ніколі ня ідзе маса, а толькі адзінкі".

...І ясная рэч, што *пакуль у Польшчы трываціме ўлада* буржуазіі, датуль усе спробы з боку беларускага *працоўнага* народу дайсьці угоды на падставе роўнасьці, волі і брацкага разьмежаваньня, *будуць бясплоднымі*: буржуазія, якая пад сваім ботам трымае польскія працоўныя масы, ні ў якім выпадку ня можа згадзіцца на роўнасьць з ёю і на волю беларускіх *сялян і рабочых*.

...„Практыка паказала, што з польскай буржуазіяй ня можа у нас быць угоды на падставе роўнасьці і волі. На ўсякія-ж іншыя віды ўгоды могуцьісьці *толькі здраднікі* свайго народу. Дык і шлях наш пад уладаю польскае буржуазіі ясны: гэта ёсьць далейшая барацьба ў сойме і па-за соймам, поплеч з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяй Польшчы, якія бачаць лепшую будучыну *толькі пад уладай сялян і рабочых*".

(З перадавіцы газэты „Беларуская Справа").

Толькі той, хто рашуча і цьвёрда стаў на шлях клясавае барацьбы, хто ўсьвядоміў сабе, што шлях да вызваленьня з-пад ярма акупацыі ляжыць праз рэвалюцыю, толькі той мог з соймавое трыбуны так біць пралетарскай існцінай па пануючае клясе і іх паслугачох-згоднікаx.

„Насупроць буржуазна-пястоўска-пэпэсоўскага блёку, павінен быць пастаўлены магутны сялянска-работніцкі блёк, у радох якога знойдуцца мільёны працоўнага люду ў вёсцы і горадзе, змагаючыхся пад клічам—*„Зямля—сялянам, фабрыкі—рабочым, нацыянальная свабода для падняволеных народаў"*.

.. *да вызваленьня вядзе толькі дарога неўмалімае барацьбы"*.

(З прамовы пасла Тарашкевіча).

4. Кожны нацыянальна-вызваленчы рух, а на Заходняй Беларусі асабліва, цесна пераплятаецца з сацыяльнай барацьбой. Бо барацьба за зямлю, барацьба супроць эканамічнага ўціску абшарнікаў і капіталістых, зьяўляецца стрыжнем масавага руху за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне Заходняй Беларусі. Правадыры Грамады выразна ўразумелі, што без сацыяльнага вызваленьня шырокіх працоўных мас ня можа быць вызваленьня з-пад нацыянальнага ўціску, які зьяўляецца няминучым вынікам капіталістычнага ладу.

Дзеля таго Грамада і ў праграме і ў сваёй дзейнасьці з вялікім націскам падкрэсьлівала сацыяльна эканамічныя моманты, як барацьба за зямлю бяз выкупу, скасаваньне асаднiцтва, за пералажэньне падаткаў з безьзямельных, малазямельных і серадзнякоў, на пануючыя заможныя клясы, за сацыяьныя правы для рабочых: васьмігадзінны рабочы дзень, мінімум заработнай платы і г. д. Адгэтуль настаўленьне мас на

барацьбу за свае штодзённыя патрэбы і ўвязка гэтае барацьбы з барацьбой за канчатковыя лёзунгі рабочых і сялян Заходняй Беларусі з барацьбой за іх поўнае вызваленьне.

„Вядучы барацьбу за самавызначэньне народаў, за сялянска-работніцкі ўрад, БСРГ разам з тым нясупынна змагаецца за самыя балючыя і штодзённыя патрэбы сялян і рабочых: за зямлю бяз выкупу, праціў непамерных падаткаў, за абарону рабочых законаў, за родную школу, за палітычныя свабоды і інш.".

Рэч зразумелая, што мабілізацыя мас на грунце барацьбы за штодзенныя патрэбы і канчатковыя рэвалюцыйныя лёзунгі далі надзвычайныя вынікі—Грамада за кароткі час правяла шэраг масавых кампаній, вырасла ў магутную стотысячную арганізацыю. Перапуджаная буржуазія праз свой фашыстоўскі урад пачала граміць гурткі і канфэрэнцыі Грамады. Гэтыя правакацыйныя ўдары фашыстоўскага ўраду не парушылі аднак рэвалюцыйнае дысцыпліны Грамады—яна не пайшла на перадчасныя паасобныя паўстаньні, а яшчэ больш паглыбіла масавую барацьбу на грунце штодзенных патрэб працоўных мас. „У адказ на узмоцненыя нацыянальныя рэпрэсіі, піша орган грамады „Народная Справа"—мы мусім узмацаваць рух сацыяльны, бо „беларускі нацыянальна-вызваленчы рух дасягне свае мэты толькі адначасна з перамогай сацыяльнага руху".

5. У сваім кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам, Грамада выстаўляла перад масамі, як завяршэньне, як вянец іхнай барацьбы, само існаваньне БССР, прапагандуючы тыя заваёвы, якіх дамагліся працоўныя масы ў культурнай і эканамічнай галінах пад савецкай уладай.

„У той час, як у Заходняй Беларусі, пад панска-польскаю ўладаю з нашай культурай вядзецца барацьба, нішчыцца нашае школьніцтва, ва ўсходняй частцы нашага краю ў Савецкай Беларусі, пад уладаю сялян і рабочых буйна разрастаецца і рвецца да жыцьця нашая беларуская культура і беларускае школьніцтва (Прамова пасла Мятлы).

Сумежна з указаньнем на СССР, як на зьдзейсьненыя мэты і думкі працоўных мас, як на вынік рэвалюцыйнае барацьбы, Грамада асуджала кожную арыэнтацыю на буржуазны Захад і няшчадна дэмаскавала палітычнае банкруцтва Лігі Нацый, у працівагу якой выстаўляла ў сваей праграме заклік да цеснага сацыялістычнага саюзу эўрапэйскіх народаў.

6. Грамада назаўсёды парвала з тым шкодным інтэлігэнцкім падыходам да мас, быццам народ,—гэта дзіцё, якое інтэлігэнцыя павядзе куды захоча і адгэтуль: соль народу—гэта інтэлігэнцыя і вызваленьне беларускага народу знаходзіцца ў руках інтэлігэнцыі. Грамада без агаворак заявіла, што апорай беларускага нацыянальна-вызваленчага руху зьяўляюцца толькі працоўныя масы і цэнтр увагі свае дзейнасьці перанясла ў шырокія гушчы працоўных Зах. Беларусі, кладучы пры гэтым галоўны націск на арганізацыю гэтых мас.

„Наш шлях гэта арганізацыя нашае ўнутранае моцы—культурнае, палітычнае і клясавае. Толькі масы, гэты сапраўдны волат з мільёнамі галоў, можа выкаваць для нас новыя формы жыцьця". (З друку Грамады).

Грамада разумела, што, каб з посьпехам змагацца з арганізаваным і маючым уладу клясавым ворагам, неабходна таксама арганізаваць барацьбу шырокіх працоўных мас і вядучы плянавы адпор супроць наступленьня абшарнікаў і капіталістых, арганізаваць масы на рашучы бой.

„Мусім стануць тварам проці твару, супроць добра арганізаванае буржуазіі, якая займае ў дзяржаве пануючае палажэньне, стануць, як таксама з'арганізаваная сіла, дужая сваёй сьвядомасьцю, культурнасьцю, арганізацыйнай спайкай і дысцыплінай, бо змаганьне з парлямэнцкага грунту ўсё больш пераходзіць на грунт штодзённага жыцьця, дзе актыўнымі мусяць быць ня толькі правадыры народу, *але і ўсе грамадзяне, усе радавыя байцы, усе паасобныя сяляне і рабочыя*". (З друку Грамады).

І дзеля таго:

„Першай задачай гурткоў павінна быць далейшае разьвіцьцё арганізацыйнае сеткі, каб кожная вёска мела свой гурток, каб праз гурткі злучылася гміна з гмінай, павет з паветам. Але аднача сна кожны гурток мусіць паглыбляць свае ўплывы і ў сваёй вёсцы мусіць стацца цэнтрам усяго жыцьця вёскі".

(З друку Грамады).

„Тварыць сялянскія камітэты—вось загад гэтага моманту. Тварыць сялянскія камітэты дзеля масавае барацьбы за зямлю для сялян бяз выкупу, дзеля барацьбы з разьдзіраньнем зямлі невялікаю жменяю вясковых кулакоў, дзеля барацьбы з падатковым уціскам і гвалтамі паліцыі, дзеля арганізаваньня масаў пад дэвізам: „Барацьба за сялянска-рабочы ўрад".

(З прамовы Тарашкевіча).

З гэтых асноўных і характэрных пастулятаў, выцякае, што Грамада мела ясна вызначаную клясавую пазыцыю, даволі вытрыманую рэвалюцыйную тактыку, даволі выразную рэвалюцыйную пэрспэктыву.

Аднак былі і недахопы. Не ўважаючы на націск мас, якія пад уплывам кампартыі выраўноўвалі палітычную лінію кіраўнікоў Грамады, усё-ткі ў праграме і тактыцы Грамады прабіваліся адзнакі дробна-буржуазнага характару гэтае партыі і праявы апартунізму. Выходзячы з таго заложаньня, што сялянства на Зах. Беларусі лікам больш, як рабочых і, што Грамада зьяўлялася арганізацыяй беларускіх працоўных мас, кіраўнікі заўсёды выстаўлялі на першае месца сялянства (саюз сялян і рабочых, сялянска-рабочага ўраду, а не наадварот), гэта выяўляла іхнюю недаацэнку ролі пралетарыяту ў рэвалюцыйным руху. Грамада ў сваіх лёзунгах замаўчвала, што шлях да вызваленьня ляжыць праз сацыялістычную рэвалюцыю, праз дыктатуру пралетарыяту, і ня мела ў пэрспэктыве сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. У крытыцы некаторых недахопаў у сацыялістычным будаўніцтве Савецкае Беларусі, у грамадаўцаў ня раз праціналіся нацыяналістычныя ноткі. У арганізацыйным пытаньні Грамада зрабіла памылку, што ня высоўвала з нізоў актыўны элемэнт на кіраўнічыя вярхі, аддаючы ў гэтым пяршынства інтэлігэнцыі, якая пры першых ударах тэрару пачала хістацца і пераходзіць да згоды.

Але-ж, не ўважаючы на гэтыя недахопы, заслугі Грамады перад рэвалюцыяй Зах. Беларусі, вялізарныя. Адчуўшы нутром барацьбіта настрой зьняволеных мас Зах. Беларусі, Грамада ўдала і своечасова выкарыстала легальныя абставіны і заклікам да вызваленьня разварушыла працоўныя масы Заходняй Беларусі, рэвалюцыйнымі лёзунгамі узарала самыя глухія заняпаўшыя куты.

Магутная актывізацыя мас у барацьбе ці то за штодзённыя патрэбы ў культурнай, альбо эканамічнай галіне, ці супроць тэрору і наступу фашыстаўскага ўраду, Грамада імкнулася афармляць гэтую актывізацыю ў масавых выступленьнях, у форме сходаў, мітынгаў, дэманстрацый, збору подпісаў і г. д. Сялянства стала гаварыць языком мас, увязваць сваю барацьбу з барацьбой рабочых па гарадох,

з барацьбой пралетарыяту Польшчы. Беларуская вёска палітычна вырасла, прыдбала клясавую сьвядомасьць, рэвалюцыйную закалку, і на шляху барацьбы стала выяўляць самастойнасьць і самадзейнасьць. Грамада ўкараніла ў гушчу працоўных мас неабходнасьць арганізавацца і на справе паказала дадатныя вынікі арганізаванае барацьбы. Вось чаму ў Грамаду рухнулі сотні тысяч працоўных, вось чаму Грамада за 6 месяцаў з гарой арганізавала 4 проц. насельніцтва Заходняй Беларусі.

Надзвычайна шпаркі рост Грамады і гарачае спачуваньне мас сьведчыць пра тое, што праграма і тактыка Грамады, яе барацьба ў духу міжнароднай пралетарскай салідарнасьці, барацьба за самавызначэньне Заходняе Беларусі, за сялянска-рабочы ўрад, за зямлю бяз выкупу і інш.—што ўсё гэта было выяўленьнем волі і імкненьняў шырокіх працоўных мас Заходняе Беларусі.

Сваім арганізацыйным разгонам і ажыўленай масавай барацьбой Грамада падняла надзвычайны энтузіязм і змагарскае захапленьне сярод працоўных Заходняе Беларусі, нават палёнізаваныя рабочыя беларусы і рабочыя—палякі і яўрэі па гарадох уступалі ў шэрагі Грамады. У Вільні, напрыклад, Грамада налічвала ўжо блізка 300 сяброў рабочых.

Гісторыя Беларусі ня ведае дасюль такога магутнага, грунтоўнага, арганізаванага выяўленьня волі мас і такога рэвалюцыйнага энтузіязму, як у часы Грамады, а гэта сьведчыць аб тым страшэнным эканамічным уціску і нацыянальным прыгнечаньні, якія пануюць на Зах. Беларусі. Грамада гэта сьветазарны весьнік нямінучай перамогі зьняволеных і эксплёатаваных, Грамада гэта радасны вокрык зьняволенага народу сярод яго бязупыннага стогну і посьвісту гарапніка акупантаў.

Пасьля Грамады нацыянальна-вызваленчы рух вышаў на шырокі шлях арганізаванай масавай барацьбы, пры цеснай увязцы з барацьбой пралетарыяту. І тут трэба адзначыць, што львіная доля посьпеху Грамады належыць кампартыі Зах. Беларусі, кампартыі, якая хоць і знаходзіцца ў глыбокім падпольлі, але мае послух у шырокіх масах, шырокі ўплыў і глыбокія карэньні ў гэтых масах. Кампартыя паміма веды кіраўнікоў Грамады настаўляла шырокія масы на арганізаваньне сваёй барацьбы ў легальных формах, на масавую барацьбу, на мабілізаваньне мас для барацьбы за штодзённыя патрэбы і іншае, і гэтым садзейнічала росту і ўплыву Грамады.

*(Працяг ў наступным нумары)*

---

Ю. Браткоўскі

# Шляхамі нацыяналізму, апартунізму і здрады *)

*(Разлом у КПЗУ)*

## 1. Ад сабатажніцтва да службы Пілсудзкаму

Група Васількова—Туранскага сваім дзейнічаньнем, скіраваным супроць СССР—вогнішча міжнароднай сацыяльнай рэвалюцыі, супроць супольнай барацьбы працоўных мас Заходняй Украіны і пралетарыяту Польшчы, фактычна паставіла сябе па-замежамі Камінтэрну і камуністычнага руху наогул.

Канстатуючы гэты факт, Выканаўчы Камітэт Камуністычнага Інтэрнацыяналу, на пленарным паседжаньні 18 лютага гэтага году, прызнаў паводзіны раскольніцкай групы—адчыненай здрадай пралетарскай рэвалюцыі, ухваліў выключыць яе з шэрагаў Камінтэрну і заклікаў працоўныя масы Заходняй Украіны „даць рашучы адпор служкам Пілсудзкага і здраднікам пралетарскай рэвалюцыі“.

Вялізная большасьць партыі вельмі рашуча асудзіла нацыяналістычных дзеячоў расколу. Гэта знайшло сваё выяўленьне у пастановах нарады КПЗУ у студзені 1928 г., дзе мелі сваіх прадстаўнікоў амаль усе арганізацыі КПЗУ. Партыя здаровая. Група нацыяналістычных інтэлігэнтаў апынулася адцятай ад партыйнага пню і што раз усё больш бярэцца шукаць апоры ў дробным мяшчанстве.

Гэты факт, аднак, не вызваляе партыю ад вялікай працы па перамозе усякіх нацыяналістычных і апартуністычных праяў. Адно з галоўных нашых заданьняў—гэта абгаварэньне крыніц здрады ранейшай кіраўнічай групы КПЗУ, праана́лізаваньне ўмоў, у якіх адбываўся процэс пераходу раскольнікаў на той бок барыкады, распазнаваньне той дарогі, якая давяла групу Васількова-Туранскага да нацыяналістычнага лягеру контр-рэвалюцыі, уразуменьня істоты і характару іхных памылак.

Група раскольнікаў прышла ў партыю з лягеру нацыяналістычнага дробнага мяшчанства. Слаба зьвязаная з пралетарыятам, яна адбівала настроі гэтага лягеру.

Пасьля прайгранай польска-украінскай вайны 1919 г. лягер дробнага украінскага мяшчанства цэлы шэраг гадоў займаў варожую пазіцыю супроць польскай дзяржавы. Выяўнікам гэтага была актыўная барацьба супроць польскай акупацыі (сабатаж), лезунг ірляндызацыі Заходняй Украіны, байкот народнага перапісу ў 1921 г. і выбараў у сойм у 1922 г., патайны унівэрсітэт у Львове, шырокае выкарыстаньне лёзунгу „зямля бяз выкупу“ і г. д.

*) Пераклад з украінскае мовы. Браш. „Ю. Братківські. Шляхами націоналізму, опортунізму та зради“—ДВУ, 1928 г.

Палітыка нічым незахаванага зьнішчэньня, якая праводзілася эндэцкімі і кааліцыйнымі ўрадамі Польшчы, аддаляла ад іх нават найбольш згодніцкія ўкраінскія элемэнты, пазбаўляла іх хоць якога небудзь падтрыманьня ў грамадзе. Пасьля акту 14 сакавіка 1923 г., якім Рада Паслоў фармальна прызнала прыналежнасьць Усходняй Галіччыны да польскай дзяржавы, у буржуазных украінскіх колах вызначыуся паварот да шуканьня згоды з польскаю дзяржаунасьцю. Зьезд Украінскай Народна-Працоўнай партыі ў Львове, 21 мая 1923 г, ухваліў рэзалюцыю з пажаданьнем аўтаноміі для украінскіх земляў у межах польскай дзяржавы. Але польскі урад (Хіена-Пяст) і польскія камандныя клясы адвялі прасьцягнутую руку украінскай буржуазіі. Выявілася яшчэ раз, што ў тагочаснай сітуацыі згода ня мела пад сабою падстаў. У сьнежні 1923 г. аутанамісты адышлі ад кіраўніцтва у УНПП, і яна ізноў перайшла ў рукі пятрушэвічаўцаў.

У гэткіх умовах у частцы украінскага нацыяналістычнага лягеру выяўлялася арыэнтацыя на Савецкую Украіну праўда, яшчэ нявыразная. Знайшла яна пэўнае выяўленьне, між іншым, і у пастановах зьезду УН-ПП у красавіку 1924 г.

Аднак, на грунце частковай капіталістычнай стабілізацыі, у шэрагах украінскага мяшчанства пачынаюць што раз усе больш выкрышталізоўвацца плыні, якія ужо арыэнтуюцца на захад, на адбудову УНР (Украінскай Народнай Рэспублікі) з дапамогай буржуазных дзяржаў. II зьезд КПЗУ, на пачатку 1926 г., мог ужо сьцьвярджаць наступнае. „дэзарыэнтацыя мяшчанскіх партый, якая сталася скуткам іхнай палітыкі у 1918—1923 г г., „прарадзянскасьць“ (хутчэй не як акрэсьлены настрой, а нявыразная палітычная праграма), вымушаная нацыскам народных мас і разуменьнем уласнай бездапаможнасьці, пачынаюць пераходзіць на прызнаньне УССР толькі, „як этапу па шляху да украінскай дзяржаўнасьці“, як этапу, завяршэньню якога належыць актыўна дапамагаць. Замест варожасьці паміж контр-рэвалюцыямі „наднястранскай“ і „надняпроўскай“ пачынае акрэсьлівацца паміж імі пэўны контакт, пры чым, кіраўнічую ролю бярэ на сябе „надднястранская“ контррэвалюцыя. Пачынае адражацца „заходня-эўрапэйская арыэнтацыя“.

Гэты працэс кансалідацыі заходня-эўрапэйскай буржуазіі, выяўленьнем якога было, паміж іншым, узьнікненьне УНДО (ліпень 1925 г.) хутка ішоў наперад. Вядомая рэч, што арыентацыя на заходня-эўрапэйскую буржуазію павінна была у сваіх выніках давесьці да узмацненьня згодніцкіх настрояў і супроць польскай дзяржавы, гэтага найдалей выстаўленага на Ўсход імпэрыялістычнага фарпосту, гэтай „перадавой цытадэлі“ сусьветнага капіталізму. Зьмена ў настроях украінскай буржуазіі і вярхоў дробнага мяшчанства з асаблівай сілаю выявілася пасьля фашыстаўскага перавароту у Польшчы. Зьезд УНДО ў лістападзе 1926 г. агаласіў пляцформу *„усеукраінства“* і, прыкрываючыся „арыентацыяй на ўласныя сілы“, фактычна прыняў *арыентацыю на польскі фашызм* і на інтэрвэнцыйныя пляны міжнароднага імпэрыялізму.

Зьмена пазыцый буржуазнага і дробнамяшчанскага лягеру мела пад сабою цэлы шэраг прычын. Частковая стабілізацыя капіталізму ў Польшчы, якая акрамя усяго у Заходняй Украіне, адкрывала украінскай буржуазіі мажлівасьць узяць удзел у выгадах адносна спрыяючай гаспадарчай кан'юнктуры, тым больш, што эндэцкія элемэнты чым далей, тым мацней выцясьняліся нацыскам тых вялікакапіталістычных элемэнтаў, якія ішлі да аб'яднаньня ўсіх сіл эксплёататараў, незалежна ад веры і нацыянальнасьці, на грунце супольнай праграмы наступленьня капіталізму.

На гэтым грунце частковай стабілізацыі капіталізму ў заходня-
эўрапэйскай буржуазіі вызначыуся узрост *зацікаўленасьці да Укра-*
*іны* у плянах сусьветнага імпэрыялізму яна мае быць брамай для вы-
лазак супроць усяго Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.
У найгалоунейшых буржуазных газэтах Ангельшчыны, Францыі, Нямеч-
чыны і інш., чым далей, тым часьцей пачалі зьяўляцца прысьвечаныя
Украіне артыкулы, трактуючы яе, як каленізацыйную і ваенную пля-
цоўку. Лесам Украіны адначасова пачынаюць цікавіцца буржуазныя
служкі II Інтэрнацыяналу—паколькі апошні хоча быць ня чым іншым,
як „найвышэйшай інстанцыяй у разьвязваньні нацыянальнай праблемы
на Усходзе"

Урады Ангельшчыны, Францыі, Чэха Славаччыны, Румыніі, Поль-
шчы пачалі шчадрэй, чымсь дагэтуль, субсыдыраваць розныя закар-
донныя пятлюраускія прадстаунiцтвы, даручаючы ім узмоцніць сваю
шпегаускую работу, а таксама стварыць контр-рэвалюцыйныя асяродкі
на тэрыторыі УССР.

Фашыстаускі пераварот Пілсудзкага быу адным з рашучых ма-
нэурау на шахматнай дошцы падрыхтаваньняу да атакі на СССР. Пасьля
перавароту Пілсудзкі зьвярнуу асабліваю увагу на *далучэньне да фа-*
*шыстаускага фронту украінскай буржуазіі, кулакоў і вяршкоў дроб-*
*нага мяшчанства.* Да гэтага была накіравана яго парцэляцыйная,
камасацыйная, крэдытовая (спрыяньне пятлюраўска-ундоўскім бан-
кам і інш., палітыка Хутка узрастала і усе большала залежнасьць гас-
падарчых і грашовых інстытуцый украінскай буржуазіі ад фашыстаў-
скага ураду. У культурна асьветнай галіне шчодра раздаваліся абя-
цанкі, а часткова наваті кінуты такі-сякі мізэрны падарунак. Адначасова
прэса пілсудчыкау штодня малявала ружовыя пэрспэктывы незалежнай
буржуазнай Украіны, якая мае стацца скуткам сьвяшчэнай вайны су-
проць бальшавізму. *Узрост сацыялістычнага будаўніцтва ў УССР,*
банкруцтва надзей на капіталістычнае перанараджэньне савецкіх рэс-
публік таксама накіроувалі украінскую буржуазію ў абдымкі польскага
фашызму.

Капіталістычная стабілізацыя, павялічваючы маемасьць эксплеата-
тарау усіх нацыянальнасьцяу, у тым ліку і украінскай буржуазіі, кла-
лася цяжкім грузам на шыі рабочых і сялян, нясучы ім зьніжэньне
пражытачнага узроуню, павялічэньне эксплеатацыі і фашыстаўскі тэ-
рар. Урад Пілсудзкага лаў рабочым і сялянам Заходняй Украіны разьню
у Дзьвінячы і Надворнай, працэс 151, масавыя працэсы ў Луцку, Коўлі,
Бярэсьці, Львове, Холму, Замосьці і г. д., і г. д.

На атаку капіталістау і фашыстаўскага ўраду працоўныя масы
Заходняй Украіны адказалі узмоцненай баявой актыўнасьцю, згурта-
ваньнем пад рэвалюцыйнымі камуністычнымі сьцягамі.

Вынікам гэтых працэсаў у грамадзянскім жыцьці Заходняй Укра-
іны, што раз мацней вызначалася *палярызацыя*—на адным канцавосьсі
кансалідацыя буржуазіі, на другім—згуртаваньне працоуных мас пад
гегемоніяй пралетарыяту. У рэзультаце загастрэньня клясавай барацьбы
павялічваецца баявы аддзел рабочых і сялян, якія змагаюцца пад сьця-
гамі рэвалюцыі, а у той самы час ад лягеру рэвалюцыйнай барацьбы
адпадаюць хісткія элемэнты, інтэлегэнцкія нацыяналістычныя гру-
поукі тыя, якія ў часе ўздыму рэвалюцыйнай хвалі пайшлі з прале-
тарыятам, але ня здолелі зрасьціся з імі пад націскам дробнамя-
шчанскага элемэнту павярталіся туды, адкуль некалькі гадоў таму
прышлі.

## II. Рэцыдыў нацыяналізму

Дробнае мяшчанства—нацыяналістычнае ў сваёй прыродзе. З гэтага пункту гледжаньня яно стаіць вышэй буржуазіі, паколькі апошняя выяўляе пэўныя імкненьні да таго, каб знайсьці агульную мову з іншымі эксплёататарамі на грунце клясавых капіталістычных інтарэсаў. Ленін пісаў у лістападзе 1917 г., што „праз сваё эканамічнае становішча, дробнае мяшчанства зьяўляецца больш патрыятычным, чымсь буржуазія, а таксама і пралетарыят" (том XV. ст. 560). Гэта вельмі характарызуе дробнае мяшчанства прыгнечаных народаў.

Якраз гэты стыхійны нацыяналізм і быў падвалінай ідэалёгічнага багажу, з якім прысталі да камуністычнага руху Васількоў-Дрэшэр-Туранскі.

Група цяперашніх нацыяналістычных раскольнікаў прышла ў партыю ў часы ўздыму рэвалюцыйнай хвалі, у часы вялікай забастовачнай барацьбы і рэвалюцыйнага ўзварушэньня у Польшчы (кракаўскае паўстаньне) і на Захадзе. У 1922—24 г.г. грамадзкія суадносіны ў Заходняй Украіне былі далёка ад якой небудзь стабілізацыі. Панаваньне польскай акупацыйнай улады было глыбока падкопана выбухамі рэвалюцыйнага руху украінскага сялянства, які пашыраўся з стыхійнай сілай. Вось як малюе тагочасную сітуацыю у заходня-украінскай вёсцы „Наша Правда" за 1924 год:

„Польская буржуазная прэса ўсё часьцей прыносіць сьвежыя весткі пра новы напад, то на цягнік, то на жандарскую варту, то на фальварак і інш. Няма таго дня, каб з шпальтаў буржуазнай прэсы розных адценьняў ня чуцён быў крык пра небясьпеку на „крэсах", якая пагражае існаваньню польскай дзяржавы. Міністэрства Унутраных Спраў разам з вайсковай уладай ужывае ўсе захады, каб задушыць „бандытаў у лапцёх". Усходнія наветы Польшчы затоплены войскам. На „крэсах" уведзена вайсковае становішча. Ад 5-ай гадзіны ўвечары, да 7-ай гадз. раніцы нікому недазволена выходзіць з хаты. Карныя экспэдыцыі гуляюць скрозь... Кроўю і штыком душыць урад мужыка-бунтара. Але... фальваркі не пакідаюць палаць; з дымам, гіне панскае збожжа... Украінскі і беларускі мужык заціснуты як больш нельга, выбухае як бомба, то ў тэй, то ў іншай мясцовасьці, і помста яго такая-ж самая закаранелая, як і ў ягонага пана".

Група Васількова—Туранскага ў значнай меры была выразіцелем настрояў, якія хвалявалі тады заходня-украінскую вёску. Гэты, уласна, факт і вызначаў для Камінтэрну і КПП неабходнасьць захадаў, накіраваных на тое, каб зьвязаць групу Васількова з лягерам пралетарскай рэвалюцыі і прыцягнуць да камунізму і ідэалёгічнага асыміляваньня хоць-бы часткі элемэнтаў, якія выяўлялі сабою сялянскую рэвалюцыйную стыхію.

Праз цэлы шэраг гадоў КПЗУ пагражала небясьпека расплысьціся ў сялянскім моры. Аж да 5-ай канфэрэнцыі КПЗУ (красавік 1924 г.)—і нават яшчэ пазьней,—большасьць сяброў партыі—былі сяляне, у значнай меры серадdespite; дзякуючы гэтаму справа пралетарызаваньня партыі не пераставала быць для КПЗУ галоўнай справай;—праўда, і тое што тагочасная кіраўнічая група КПЗУ недаацэньвала гэтую справу і фактычна яе не разумела, хоць і прымала поўна рэзалюцый, дзе трактавалася пра пралетарызаваньне партыі.

У 4—8 №№ „Нашай Правды" за 1924 г. Васількоў пісаў: „Часам мы станавіліся партыяй працоўных наогул, інакш кажучы — партыяй, якая яднае ў сабе (а не навакол сябе), акрамя пралетарыяту, яшчэ і

іншыя пласты працоўных мас—альбо партыяй, якою часам любяць лічыць сябе сацыял-дэмакраты".

Што КПЗУ да 5-ай канфэрэнцыі мела пераважна сялянскі характар, што на гэтым грунце у ей пашыраліся плыні, чужыя пралетарскай ідэалёгіі, гэта павінен прызнаць таксама і Максімовіч. У сьнежаньскім нумары „Нашай Праўды" за 1924 г. ён піша так:

„Да 5-ай канфэрэнцыі аб'ектыўна можа здавалася, нібы наша партыя усю увагу зьвярнула на вёску, нібы такая лінія выплывала з погляду, што найважнейшую ролю у рэвалюцыі на заходня-украінскіх землях мае адыграць сялянства, што яно будзе насіцелем рабоча-сялянскай улады. Кажу, што аб'ектыўна гэткі погляд мог быць у некаторых партыйцаў, бо яны бачылі шпаркае, значнае і арганізацыйна пашырэньне партыі у вёсцы без адначасовага трывалага арганізацыйнага умацненьня яе у рабочых цэнтрах. На гэткае аб'ектыўнае „народніцтва" канфэрэнцыя зьвярнула увагу, вылучыўшы лезунг павароту ад вёскі да гораду, ад неабмежаванай сялянскай стыхіі—у фабрыкі у прафсаюзы (ст. 29).

5-ая канфэрэнцыя КПЗУ вылучыла лезунг пралетарызацыі партыі. Але група Васількова, урастаючы карэньнямі у дробнабуржуазны нацыяналізм, *ня здолела ажыцьцявіць гэты лёзунг.* Таму і II зьезд КПЗУ, які адбыўся на пачатку 1926 г. павінен быў сьцьвердзіць: „хоць 5-ая канфэрэнцыя зьвярнула асаблівую ўвагу на справу пралетарызацыі партыі, але дагэтуль мы ня здолелі як сьлед замацавацца сярод работніцтва, у першую чаргу, сярод рабочых найважнейшых прамысловых асяродкаў—нафтавога, дрэваапрацоўчага, мэталёвага, салянога. Бясспрэчна мы непавінны палохацца таго, што маем у партыі значны процант сялянства, якое ідзе да нас масамі, але толькі у тым выпадку, калі будзем мець моцнае пралетарскае ядро, моцную пралетарскую падвалину. Калі гэткага ядра няма, калі камуністычная партыя набывае пераважна сялянскі характар, тады небясьпека, якая пагражае партыі, становіцца вельмі яснай—у нас яны выяўляецца у ідэалёгіі і у практыцы „сабатажу", чаго нам дагэтуль выжыць не ўдалося".

Абгаварваючы вынікі работы II зьезду КПЗУ, Туранскі проста сьцьвярджае:

„І надалей мы зьяўляемся партыяй з пераважным процантам сялянства. Гэта пацьвярджаюць апошняя паведамленьні. У адных акругах склад нашай партыі амаль выключна сялянскі, а ў іншых пралетарскі элемэнт займае ледзь палову цэлага складу партыйных арганізацый. Мала маем такіх партыйных арганізацый, дзе-б пралетарскі элемэнт зьяўляўся пераважнай большасьцю асабліва прамысловы пралетарыят... Дачасная наша арганізацыйная практыка была такою, што мы вельмі часта будавалі нашыя партыйныя арганізацыі без дакладнага ўяўленьня сваіх заданьняў, бяз пляну, а ў значнай меры *плавалі па мору сялянскай стыхіі* („Наша Праўда", май 1926 г., ст. 27).

Шчыльная сувязь групы Васількова—Туранскага з дробнабуржуазным асяродзьдзем, пры адначаснай малой насычанасьці пралятарскай падваліны КПЗУ, прыводзіла да таго, што ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ адбівала у сабе хістаньні і зьмены настрояў дробнага мяшчанства. Да 1922 г. група Васількова, разам з нацыяналістычным дробным мяшчанствам, па існасьці, уласна, не пераставала арыэнтавацца на сілы заходня-эўрапэйскай дэмакратыі. Гэтая якраз арыентацыя ляжала у аснове тактыкі байкоту соймавых выбараў 1922 г. Выходзіліся на тым, каб на талерцы „эўрапэйскай дэмакратыі" падаць аднастойную пазыцыю усяго украінскага народу і каб асяродзіць на сабе эўрапэйскую грамадзкую думку стварэньнем аднастайнага нацыя-

нальнага фронту, захаваньнем грамадзкага міру (Burgfrieden) ува ўсім украінскім народзе.

Калі ў масах украінскага дробнага мяшчанства пачала падаць вера ў дапамогу Заходня-Эўрапэйскай дэмакратыі, калі са стыхійнай сілай пашыраўся і мацнеў рэвалюцыйны рух прыгнечаных польскім імпэрыялізмам украінскіх працоўных мас, група Васількова-Туранскага ўсе больш і больш пачынае пераходзіць на камуністычныя пазыцыі, паступова адракаючыся не аднэй з сваіх памылак.

Пад правільным кіраўніцтвам Камінтэрну і КПП уся партыя КПЗУ ішла ўперад, яднала пад сваімі сьцягамі і мабілізавала да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне шырокія працоўныя масы Заходняй Украіны.

Ва ўмовах уздыму рэвалюцыйнай хвалі з Камінтэрнам ішла таксама і ранейшая кіраўнічая група ЦК КПЗУ тая, якая цяпер здрадзіла партыі і Камінтэрну

Здрада групы Васількова таксама зроблена пад уплывам дробнабуржуазнага асяродзьдзя яна таксама была выразіцелем нявер'і, якая зьявілася ў часткі дробнага мяшчанства, няверы ў рэвалюцыю і ў здольнасьць пралетарыяту кіраваць працэсам будаўніцтва украінскай сацыялістычнай культуры. Гэтая нявера ў сілы пралетарыяту зьяўляецца аднэю з рысаў, якія ідэалёгічна зьвязваюць нацыяналістычных рэнэгатаў з трацкізмам.

Раскольніцкая группа ня раз імкнулася давесьці тое становішча, на якім яна стаяла ў 1920—23 г.г., як стопроцантны бальшавізм, яшчэ больш, яна прыпісвала сабе заслугу бальшавізаваньня КПП. У сапраўднасьці, аднак, гэта зьяўляецца аднэй з легенд, якія імкнуліся прыпісаць партыі васількаўцы. Пазыцыя іх ад часоў разыходзін 1920—23 г. г. носіць на сабе столькі сьлядоў непераможанага дробнамяшчанскага нацыяналізму, што толькі надзеяй на кароткую людзкую памяць можна растлумачыць сьмеласьць васількаўцаў, калі яны амаль з хвіліны часу свайго палітычнага нараджэньня выстаўлялі сябе за стопроцантных ленінцаў.

Найвышэйшай мэтай гэтае групы было нацыянальнае вызваленьне. Клясавая барацьба пралетарыяту—гэта для іх толькі *сродак*, пры дапамозе якога можна змабілізаваць масы на барацьбу за нацыянальнае вызваленьне.

„У польска-украінскай нацыянальнай вайне 1918-1919 г. г.—пісаў Васількоў у першым нумары „Нашай Праўды" за студзень 1924 г.,—перамог француска-польскі капітал, прыкрыты патрыятычным фігавым лістком нацыянальнага шавінізму. Украінскія працоўныя масы ў гэтай вайне былі пераможаны. Вось-жа, як галоўнае заданьне, перад працоўнымі масамі паўстае барацьба з акупацыйным француска-польскім капіталам. Парукаю перамогі працоўных мас у гэтай барацьбе ёсьць шчыльнае яе злучэньне з барацьбою за штодзенныя інтарэсы працоўных мас як гораду, так і вёскі (ст. 23).

Бязумоўна, што працоўныя масы Заходняй Украіны павінны праводзіць рэвалюцыйную барацьбу з „акупацыйным француска-польскім капіталам", што заданьні камуністычнай партыі—арганізоўваць гэтую барацьбу і даваць ей належны напрамак. Але існасьць артыкулу Васількова захоўваецца ня ў сьцьвярджэньні гэтай элемэнтарнай ісьціны, а ў поўным абмінаньні праблемы адносін працоўных мас Зах. Украіны да украінскай буржуазіі. Кажучы пра барацьбу з польскай акупацыяй, Васількоў робіць гэта спосабам, уласьцівым разуменьню сац.-патрыётаў—тых, якія клясавую барацьбу пралетарыяту падпарадкоўваюць вышэйшым агульнанародным інтарэсам.

Гэтае вылучэньне на першы плян нацыянальнай справы як найшчыльней злучалася ў васількаўцаў з хібнаю ў сваей аснове ацэнкаю суадносін клясавых сіл у Зах. Украіне. Вялікую цікавасьць пад гэтым поглядам уяўляе рэдакцыйны артыкул пад назвай „сьмерць нацыяналізму“, зьмешчаны у 2-3 нумары „Новай Культуры“ за чэрвень -ліпень 1923 г. З яго даведваемся, што украінскі нацыяналізм павінен загінуць натуральнай сьмерцю, дзякуючы таму, што, быццам, „*няма украінскай буржуазіі*“ (ст. 6). А калі украінская буржуазія ня існуе, дык і украінскі нацыяналізм не зьяуляецца выяўнікам гэтай буржуазіі, якая ня існуе. Ідэалегія нацыяналістычнага дробнага мяшчанства—праводзіць далей ход сваіх думак „Новая Культура“—зьяўляецца ідэалегіяй няжыцьцевай, бо яна не выяўляе інтарэсаў пэўнай грамадзкай клясы“.

Раз у Заходняй Украіне і „на развод“ няма „роднай“ буржуазіі, дык тым самым няма таксама „той клясы, якая адна толькі можа быць зацікаўлена утварэньнем нацыянальнай дзяржавы на капіталістычнай аснове“.

Але гэтага яшчэ мала: „Нова Культура“ прыходзіць да вываду, што само нацыяналістычнае дробнае мяшчанства, ня маючы падпоры ў буйна-капіталістычнай буржуазіі, „непапраўна засуджана на пагібель“.

Акурат такую-ж пазыцыю бароніць Васількоў у артыкуле пад назвай „Нацыянальнае вызваленьне і украінскае дробнае мяшчанства“, зьмешчаным у „Нашай Праўдзе“ у студзені 1924 г. Ён таксама за *неіснаваньне украінскай буржуазіі* (падкр. намі Рэд.) і робіць вывад, што дробнамяшчанская канцэпцыя нацыянальнага вызваленьня ў рамках капіталістычнага ладу зьяўляецца утапічнай канцэпцыяй. „Ілюзорнасьць дробнамяшчанскага лезунгу незалежнай Украіны—тлумачыць Васількоў—выходзіла з таго, што украінскае дробнае мяшчанства жадала бяз уласнага капіталу і буржуазіі стварыць уласную буржуазна-капіталістычную дзяржаву“ (ст. 6).

Вось-жа бачыце, уся бяда ў тым, што няма нацыянальнага капіталу. Бо калі-б сабраць хоць крышку таго капіталу, усё-б пайшло як найлепш і мы мелі-б сапраўды незалежную украінскую дзяржаву.

Як глыбака ў групе Васількова караніліся погляды пра неіснаваньне украінскай буржуазіі, можам бачыць хаця-б з таго, што яшчэ у ліпені 1926 г. „Зямля і Воля“ лічыла заданьнем камуністычнай партыі супроць украінскага мяшчанскага лягеру наступнае „абмежаваць УНДО на ўласьцівую яму базу -мяшчанскія вярхі“ Адсюль выходзіць УНДО ў рэчаістасьці ня мае сабе падвалін ва ўкладзе клясавых сіл у Зах. Украіне, што падпораю для УНДО зьяўляецца не украінская буржуазія, а нейкія вісючыя ў паветры „мяшчанскія вярхі“.

З памылковай ацэнкі грамадзкіх суадносін у Заходняй Украіне вынікалі памылковыя погляды яшчэ ў цэлым шэрагу пытаньняў. Так, напрыклад, кажучы пра „барацьбу украінскага народу за сваю дзяржаўнасьць па абодвых берагох Збруча, пачынаючы ад 1917 г., а канчаючы 1920 годам“, „Нова Культура“ бачыць у ёй, толькі такія моманты:

„1) Прадажнасьць і эгоістычнае жаданьне ўлады, так званых, нацыянальных правадыроў і 2) самаадданасьць і засьляпленьне народу“. „Вялікая рэволюцыя на Усходзе,—працягвае далей „Нова Культура“—застала украінскі народ непадрыхтаваным і недасьпелым для палітычнага жыцьця. У першыя гарачыя дні рэвалюцыі руль палітычнага жыцьця краіны захапілі у свае рукі паасобныя людзі, ня столькі зацікаўленыя ў вызваленьні украінскага народу, колькі ў сваёй асабістай выгодзе. Дык і ня трэба дзівіцца, што 24-х гадовыя, нясконччыўшыя

